PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 43 (2215) Год XLIII Беласток 25 кастрычніка 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Чыя перамога?

Яўген Міровіч

Хаця другога дня пасля самаўрадавых выбараў былі вядомыя вынікі галасавання амаль ува ўсіх гмінах, цяжка адназначна акрэсліць, хто на іх стаў пераможцам. Амаль 70% выбаршчыкаў у краіне і звыш 60% у Беластоку не прыняло ў іх удзелу. Асноўную масу галасуючых склалі людзі ў пенсіённым узросце. У эфіры, аднак, гучыць трыумфальны тон АВС і СЛД — салідарнікаў і посткамуністаў — галоўных пераможцаў.

У Беластоку АВС атрымала 29 месцаў у гарадской радзе і можа самастойна кіраваць горадам. Жыхары Беластока адабрылі такім чынам стыль і метады кіравання горадам нацыянальна-каталіцкай кааліцыі „Еднасць". Трэба лічыць гэта вялікім дасягненнем салідарніцкага лагера, таму што нягледзячы на адмоўную ацэнку дзейнасці кіраўніцтва горада ў сродках масавай інфармацыі, арганізацыі, ствараючыя „Еднасць", пабольшылі на 4 колькасць сваіх мандатаў.

Другім, можа яшчэ большым пераможцам на гэтых выбарах у Беластоку стала кааліцыя левых арганізацый, якую склалі: СЛД, праваслаўныя і Унія працы. Выступаючы пад шыльдай СЛД, атрымалі яны 18 мандатаў, аж на 8 больш чым на папярэдніх выбарах. Самое СЛД атрымала столькі ж што ў 1994 годзе, але 8 месц у новай гарадской радзе маюць праваслаўныя (у папярэдняй мелі 3 дэпутатаў). Праўдападобна СЛД і праваслаўныя, ідучы асобна, атрымалі б вынік нашмат горшы, таму што абедзве гэтыя палітычныя групы адклікаюцца да гэтага самага электарату.

Выкарыстанне праваслаўнымі праверанага салідарніцкім лагерам метаду агітацыі прынесла ў канцы пажаданы вынік. Пастаянная шматтыднёвая праца айцоў пробашчаў і настаяцеляў прынесла свой плён. У Беластоку раднымі сталі перш за ўсё іх кандыдаты.

Вялікім прайграным стала Унія вольнасці, якая атрымала тут толькі 3 мандаты. У папярэдняй радзе мела іх 8. Падатковыя праекты Лешка Бальцаровіча адкінулі ад гэтай партыі найбольш рацыянальна галасуючы электарат — інтэлігенцыю.

У тых паветах будучага Падляшскага ваяводства, у якіх няма праваслаўных, СЛД стала маргінальнай сілай. Рашучая перамога АВС у заходняй частцы Беластоцкага ваяводства, а таксама ў Ломжынскім і Сувальскім дае салідарнікам ад новага года ўладу ў вялікім Падляшскім ваяводстве.

Пасьпяхова закончыліся выбары для Бельскай кааліцыі „Разам", якую складалі беларускія арганізацыі гэтага горада, украінцы і СЛД. Атрымалі яны 17 мандатаў. Канкурэнцыя з каталіц-

[працяг ☞ 4]



У Саборы Марыі Магдаліны (злева направа): нунцый Юзэф Кавальчык, мітрапаліт Сава, прымас Юзэф Глемп, патрыярх Варфаламей I, паляўы біскуп Славой Лешак Глудзь. Фота Яраслава ХАРКЕВІЧА

## Візіт Усяленскага Патрыярха

Аляксандр Вярбіцкі

У днях 10—16 кастрычніка наведаў Польскую аўтакефальную праваслаўную царкву Яго Свяцейства, Свяцейшы Варфаламей I, архіепіскап Канстанцінопальскі і Усяленскі Патрыярх.

Яго Свяцейства быў прыняты прэзідэнтам Рэчы Паспалітай Аляксандрам Кваснеўскім і прэм'ер-міністрам Ежым Бузкам. Сустрэўся таксама з іерархамі Каталіцкага Касцёла з Прымасам Польшчы, кардыналам Юзэфам Глемпам на чале.

У аўторак 13 кастрычніка Усяленскі Патрыярх наведаў Лодзінска-Пазнаньскую епархію, дзе м.інш. паклаў краевугольны камень пад пабудову царквы ў Чанстахове; пабываў таксама ў Асвенціме і Кракаве.

У сераду 14 кастрычніка Яго Свяцейства Варфаламей I прыбыў на Беласточчыну. Свой візіт ён пачаў ад Сямятыч, дзе паклаў краевугольны камень пад пабудову новай Уваскрэсенскай царквы.

Затым Усяленскі Патрыярх прыехаў у найгалоўную праваслаўную святыню Беласточчыны — у Храм Праабражэння Гасподняга на Святой Гары Грабарцы. Гэты візіт, нанесены ў дзень свята Пакрова Прасвятой Багародзіцы, быў бясцам другім асвячэннем адбудаванага храма. Пасля кароткага малебна Першаіерарх нашай Царквы пераехаў у Гайнаўку, спыняючыся для кароткай малітвы ў Кляшчэлях. Побач храмаў, якія знаходзіліся па трасе праезду Усяленскага Патрыярха, у Жэрчычах і Мілейчычах ды перад новабудаванай Свята-Дзімітрыеўскай царквою ў Гайнаўцы, прыхаджане выстраілі пачэсныя аркі для прывітання Высокага Госця.

Перад гайнаўскім Свята-Троіцкім саборам сотні і сотні праваслаўных вернікаў з Гайнаўкі і наваколля віталі свайго Першаіерарха. У Саборы, які з'яўляецца месцам самага грандыёзнага Фестывалю царкоўнай музыкі, быў адпраўлены кароткі малебен у гонар Яго Свяцейства, пасля якога Варфаламей I наведаў Гайнаўскі дом культуры — установу, якая з'яўляецца галоўным арганізатарам Фестывалю. Перад уваходам Яго Свяцейства прывіталі гаспадыні гміны і горада Вольга Рыгаровіч і Ядвіга Рудзінска-Патэюк, а таксама дырэктар Фестывалю царкоўнай музыкі Мікалай Бушко.

Пасля Гайнаўкі Высокі Госць нанёс кароткі візіт у Бельск, а затым пераехаў у Беласток. Перад Свята-Мікалаеўвым саборам свайго Першаіерарха віталі тысячы і тысячы беластачан. Святочны дзень Пакрова Прасвятой Багародзіцы Яго Свяцейства закончыў кароткім малебнам у Саборы, на якім прысутнічала м.інш. беластоцкі ваявода Крыстына Лукашук.

У чацвер 15 кастрычніка Усяленскі Патрыярх высвяціў царкву Мудрасці Божай (Агія Сафія) на вул. Травястай у Беластоку, а пасля адправіў першую ў ёй літургію. Нягледзячы на працоўны дзень, прынясць удзел у малітве са сваім Першаіерархам прыйшлі тысячы і тысячы беластоцкіх вернікаў — прыцаркоўны пляц запаўняла мора народу ад дзяцей да старэчаў. Храм, які

[працяг ☞ 9]

## На бяду многа не трэба

У Арлянскай гміне сёлета ўспыхнула восем пажараў, у тым ліку ў верасні аж тры. 24 верасня каля дзесятай вечара ў Орлі пры ляску, які мясцовыя называюць Борам, згарэла клуня поўная збожжа і сена. У тушэнні ўдзельнічала добраахвотная пажарная каманда з Орлі і пажарная часць з Бельска-Падляшскага.

[болей ☞ 3]

## Будучыня ў маладых гаспадарах

Калі еду ў Збуч, людзей у полі ўжо не відаць, у вёсцы таксама пуста. Васіля Хворася сустракаю ў майстэрні, дзе рамантуе воз. Зяць з дачкою паехалі па дровы. Сын Андрэй, студэнт Варшаўскага універсітэта, ужо адправіўся ў сталіцу.

[з вёскі ☞ 3]

## „Міцкевіч вялікім паэтам быў"

У адной з беластоцкіх школ настаўніца спытала вучняў колькі з іх у сапраўднасці прачыталі паэму „Пан Тадэвуш". Сярод 34 прысутных толькі адна вучаніца падняла руку, але і яна прызналася, што чытала гэта дзеля выканання школьнага абавязку.

[Міцкевіч і моладзь ☞ 4]

## Цёплы вечар у восеньскі дзень

Ну, і выйшла! Думаю, што такога вечара яшчэ ў Беластоку не было. Адна імпрэза — для дарослых і дзяцей адначасова! І тая сардэчная атмасфера, тыя ўсмешкі гледачоў, калі дзеці пачалі дэкламаваць „смешныя" вершы пра дачушку паэта Віктара Шведа, якая была во тут, побач з імі, і сама Наталька таксама дэкламавала вершы пра сябе, тая цеплыня і шчырасць усіх разам — падкупілі кожнага, хто быў у гэты вечар у зале ВААКа.

[прэзентацыя ☞ 8]

## Пан быў добры чалавек

Як выглядала мая служба ў маёнтку? Раніцай я вёз малако ў Саколку да адной жыдоўкі, а яна разносіла па сваіх знаёмых і так зарабляла. Тарасевіч меў 5 ці 6 кароў. Жыў пераважна з таго, што лес меў, ды прадаваў збожжа. Кожны дзень вазіў я па дваццаць літраў малака. Зімой пілавалі лес, вазілі і рубалі, каб дровы за лета пасохлі.

[успамін ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Заява Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і Рады маладзёжнага грамадскага аб'яднання „Хлоя"

Аднавіў свае пасяджэнні Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі, які разглядае справу газеты „Наша Ніва". Сутнасць канфлікту паміж Дзяржаўным камітэтам РБ па друку і рэдакцыяй газеты — у розных адносінах да так званай „тарашкевіцы", правапісу, якім у пачатку стагоддзя карысталася дэмакратычная беларуская прэса і на якім друкавалі свае класічныя творы Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі. Дзяржкамдрук кваліфікуе выкарыстанне „тарашкевіцы" як парушэнне пастановы Савета народных камісараў БССР ад 1933 года і адыход ад „агульнапрынятых нормаў".

Лічым неабходным заявіць, што, па нашым глыбокім перакананні, адмысловыя мовазнаўчыя праблемы не могуць вырашацца ў судовых інстанцыях. Мову народа, яе законы і гісторыю нельга рабіць зброяй у палітычнай барацьбе, выкарыстоўваць у кан'юнктурных ідэалагічных мэтах. Спроба чыноўнікаў Дзяржкамдруку навязаць прыватнай, недзяржаўнай газеце свае лінгвістычныя схільнасці з'яўляецца парушэннем канвенцыі аб грамадзянскіх і палітычных правах, да якой далучылася і Беларусь, і дае падставы аб яшчэ адным факце ўціску незалежнай беларускай прэсы, аб імкненні звузіць сферу бытавання беларускага слова.

Мы заклікаем судовыя і выканаўчыя ўлады краіны пакінуць абмеркаванне правамернасці ўжывання ў друку „тарашкевіцы" навукоўцам і журналістам і зрабіць усё магчымае для росквіту роднай беларускай мовы, для шырокага развіцця беларускага друку.

„Наша Ніва" павінна жыць!

**Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**
**Рада Маладзёжнага грамадскага аб'яднання „Хлоя"**
*Мінск, 16 верасня 1998 г.*

# Правы чалавека ў Беларусі

**(люты — кастрычнік 1998 г.)**

У Беларусі парушаецца „права на свабоду прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю".

Робіцца ўсе намаганні, каб праўдзівая інфармацыя не патрапіла ў сродкі масавай інфармацыі. Указ „Об усилении контрпропаганды выступлений оппозиционной прессы" забараніў афіцыйным асобам даваць інфармацыю для недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

Праца журналістаў у краіне, дзе пануе дыктатарскі рэжым робіцца небяспечнай. У Беларусі парушаецца адно з асноўных правоў чалавека — свабодна выказваць свае думкі. У дзяржаўных сродках масавай інфармацыі па-ранейшаму пануе цэнзура. Журналістаў, якія асмельваюцца сказаць праўду пазбаўляюць акрэдытацыі. Некалькі месяцаў у Гродзенскім следчым ізалятары правёў супрацоўнік беларускага бюро Грамадзянскага расійскага тэлебачання Павал Шарамет, пасля чаго яны разам з аператарам Дзмітрыем Завадскім былі асуджаны Ашмянскім судом. Шарамет атрымаў тры гады пазбаўлення волі, Завадскі — два гады, з адтэрміноўкай прысуду на адзін год.

12 жніўня ў Вышэйшым гаспадарчым судзе адбылося першае судовае пасяджэнне па справе газеты „Наша Ніва". На пасяджэнні была разгледжана правамернасць папярэджання, вынесенага „Нашай Ніве" Дзяржкамдрукам Беларусі за парушэнне артыкула 6 Закона аб друку, які абавязвае ўсе сродкі масавай інфармацыі карыстацца „агульнапрынятымі нормамі мовы". Газета „Наша Ніва" выходзіць на „тарашкевіцы" (г.зн. па нормах граматыкі апрацаванай Браніславам Тарашкевічам, якая выйшла ў 1918 годзе). У 1933 годзе правапіс і граматыка Тарашкевіча былі скасаваныя з мэтай набліжэння беларускай мовы да рускай.

У жніўні 1998 г. суддзя Пятухова прыняла рашэнне правесці „комплексную экспертызу" мовы газеты „Наша Ніва", дзеля чаго была ўтвораная спецыяльная група эксперта́ў-мовазнаўцаў. Паводле меркавання спецыялістаў ужыванне „тарашкевіцы" не з'яўляецца парушэннем Закону аб друку і Закону аб мовах. Але суд над газетай „Наша Ніва" яшчэ не скончаны.

27 жніўня двое невядомых узламалі дзверы і абшукалі кватэру галоўнага рэдактара бюлетэня Свабоднага прафсаюзу „Рабочий" Віктара Івашкевіча. Каштоўныя рэчы не згінулі. Рэдактар бюлетэню „Рабочий", які выходзіць накладам 50 000 асобнікаў, лічыць, што гэта была акцыя запалохвання.

*З рапарту Праваабарончага Цэнтра „Вясна '96"*

# У метро — таксама нормы водпуску

Зразумела, датычаць яны, як і заўсёды ў такіх сітуацыях, продажу жэтонаў на праезд у метрапалітэне. З нядаўняга часу ў касах на станцыях іх пачалі прадаваць не больш як два ў адны рукі.

У вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкама заўважылі, што ніякіх афіцыйных указанняў на гэты конт яны не давалі. Магчыма, гэта цалкам ініцыятыва метрапалітэна. „Апошнім часам людзі кінуліся купляць тое, што яшчэ мае стары кошт. Як бачна, дабраліся ўжо і да жэтонаў. Скупліваюць зараз па дзесяць і больш. А колькі ў дзень можна выкарыстаць жэтонаў — адзін, два? На складах запасаў няма, і ёсць рызыка, што хутка метрапалітэну не будзе з чым працаваць, бо жэтоны ў вялікай колькасці выводзяцца з абарачэння".

На пытанне карэспандэнта „Звязды", ці не звязана такая актыўнасць пасажыраў з магчымым хуткім павелічэннем кошту праезду ў гарадскім пасажырскім транспарце, спецыялісты адказалі нешта накшталт таго, што ўсё зараз даражэе. Так, такая магчымасць не выключана і хутчэй за ўсё павелічэнне тарыфаў будзе, але калі — у кастрычніку, лістападзе ці раней — гаварыць ніхто не бярэцца. Вядома, што неабходныя пралікі ў некалькіх варыянтах магчымага павелічэння кошту праезду ў гарадскім транспарце ўжо пададзены ў Міністэрства эканомікі. Апошняе пакуль маўчыць...

**Сяргей Расолька**
*Звязда № 190, 23.09.1998 г.*

# „Дзень шакала" па-беларуску

6 кастрычніка прэзідэнт Беларусі Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка вырашыў зрабіць інспекцыю спартыўных аб'ектаў у Мінску. За прэзідэнтам ездзіў натоўп журналістаў з падпарадкаваных яму сродкаў масавай інфармацыі, якім Рыгоравіч цэлы дзень выкладаў свае меркаванні наконт праблемаў, датычных так краіны, як і сучаснага свету. Абмяркоўвалася ўсё — спорт, жніва, фінансавы крызіс у Расіі і квітнеючая гаспадарка Беларусі, НАТО і беларуская дапамога для Сербіі.

6 кастрычніка — гэта таксама першая гадавіна забойства старшыні Абласнога камітэта дзяржаўнага кантролю ў Магілёве Яўгена Мікалуцкага, які ў прыватнасці быў сябрам Лукашэнкі. Прэзідэнт выказаўся і ў гэтай справе. Заявіў ён, што рыхтаваўся загавор на Галаву Дзяржавы, а смерць Мікалуцкага была толькі адным з элементаў вялікага плана загаворшчыкаў, які меў пазбавіць улады Рыгоравіча. Службы КДБ выкрылі тысячы аўтаматаў „Калашнікава", некалькі тон тратылу і ўсялякага іншага ўзбраення.

Кім былі загаворшчыкі прэзідэнт не сказаў, але даў зразумець, што пераварот рыхтаваўся ў Драздах, дзе раней знаходзіліся рэзідэнцыі замежных пасольстваў. Да канца гэтага году абяцаў ён прадставіць грамадству ўсю праўду пра варожыя сілы, якія намерваліся „дестабилизировать" сітуацыю ў Беларусі. **(ям)**

# Моладзь змагаецца за правы чалавека

**За надпіс на плоце можна сесці на пяць гадоў. У беларускіх турмах кормяць праз дзень...**

***Усе людзі родзяцца свабоднымі і роўнымі адносна сваёй годнасці і сваіх правоў. Яны абдораны розумам і сумленнем і павінны адносіцца адзін да аднаго ў духу братэрства.* Так гаворыць першы артыкул Універсальнай дэкларацыі правоў чалавека, якая была прынята Агульнай асамблеяй Арганізацыі аб'яднаных нацый у Парыжы 10 снежня 1948 года. Сёлета споўніцца ёй пяцьдзесят гадоў.**

Дэкларацыя не мела моцы міжнароднага закону, а была ўсяго пэўным указальнікам пры фармулёўцы паасобных міжнародных трактатаў. Нягледзячы на гэта не падпісалі яе: Саўдаўская Аравія, Рэспубліка Паўднёвай Афрыкі і краіны сацыялістычнага лагера на чале з Савецкім Саюзам.

*Amnesty International* налічвае ва ўсім свеце больш за мільён членаў. Збіраюць яны інфармацыю пра парушэнні правоў чалавека, турмы, тэрор, забойствы паасобных грамадзян і праслед этнічных групаў. Мабілізуе міжнародную грамадзянскую думку на пратэсты і націскі на ўрады дзяржаў, якія забіраюць людзям свабоду або і жыццё.

Гданьскі аддзел *Amnesty International*, з нагоды пяцідзесятай гадавіны абвяшчэння Універсальнай дэкларацыі правоў чалавека, сарганізаваў у розных гарадах Польшчы сустрэчы з прадстаўнікамі праваабарончых арганізацый у тых краінах, дзе яўна парушаюцца правы чалавека. Сярод іх быў старшыня Праваабарончага цэнтра „Вясна '96" у Менску **Алесь Бяляцкі**. Разам з вызваленым з вязніцы па просьбе папы Яна Паўла II кубінцам і дзяячкай жаночай арганізацыі з Сараева, сустракаўся ён з жыхарамі Беластока, Ольштына, Торуня, Гданьска, Варшавы.

— Наш цэнтр звяртаецца назвай да падзей вясны 1996 года, — гаварыў Алесь Бяляцкі ў Беластоку. — На вуліцы Менска выйшлі тады дзесяткі тысяч, каб пратэставаць супраць гвалтоўнага аб'яднання з Расеяй і знішчэння незалежнасці Беларусі. Улады адрэагавалі на гэта вельмі востра: у турмы штодзень траплялі па сто, дзвесце, а нават трыста чалавек. Сядзелі яны там па некалькі сутак, прычым нават самыя блізкія не ведалі нічога аб іхнім лёсе. І тады, з патрэбы хуткай дапамогі затрыманым, стыхійна ўзнік наш камітэт. Збіралі мы інфармацыю пра арыштаваных і шукалі адвакатаў, бо пачаліся тады крымінальныя працэсы палітычных зняволеных. А ў першую чаргу перадавалі мы вязням харчы, бо ў беларускіх турмах у такіх выпадках кормяць праз дзень і людзі сядзяць папросту галодныя.

— Паколькі сітуацыя ў нашай краіне з таго часу не змянілася і палітычны праслед не спыніўся, увесь час ёсць запатрабаванне на дзейнасць такіх праваабарончых арганізацыяў, як наша. Толькі ў гэтым годзе, па нашых падліках, ад рэжыму пацярпела каля чатырохсот асоб. У Беларусі ў турму можна трапіць па самых розных прычынах, напрыклад, за тое, што ты займаешся бізнесам і не раздзяляеш пагляды каманды прэзідэнта. Так за кратамі апынуліся дэпутаты Вярхоўнага Савета Уладзімір Кудзінаў і Андрэй Клімаў, якія былі ў апазіцыі да прэзідэнта і якім прышылі нейкія бізнесовыя махлярствы. Можна сесці за размову на вуліцы па-беларуску або за надпіс на плоце. Прычым графіці лічыцца злосным хуліганствам і пагражае турмою да пяці гадоў. Тым не менш, гэта масавая зброя нашай моладзі. Сёння лозунгамі распісаны ўсе гарады Беларусі. А самыя папулярныя насценныя надпісы гэта: „Жыве Беларусь!" і „Луку на муку".

**(мв)**

# На бяду многа не трэба

**Агонь — адна з найбольш грозных стыхій, якую цяжка чалавеку ўтаймаваць. Часам пажары ўзнікаюць без віны чалавека, нярэдка з'яўляюцца яны вынікам чалавечай неасцярожнасці і бяздумнасці.**



У Арлянскай гміне сёлета ўспыхнула восем пажараў. Зімою гарэла ў Крывятычах двойчы (дзве клуні і дом), вясною — згарэў малады лес каля Рудутаў, летам — гаспадарчыя пабудовы ў Шчытах. А ў адным толькі верасні выбухлі аж тры пажары. 5 верасня — праўдападобна ад недакурка неасцярожнага трактарыста — згарэла шэсць гектараў збожжа каля Крывятыч, а два дні пазней у Рудутах пайшлі з дымам дзве клуні, адна са збожжам і бульбаю. 24 верасня каля дзесятай вечара ў Орлі пры ляску, які мясцовыя называюць Борам, згарэла клуня (на здымку) поўная збожжа і сена. У тушэнні ўсіх згаданых пажараў удзельнічала добраахвотная пажарная каманда з Орлі і пажарная часць з Бельска-Падляшскага.

Расказвае **Міраслаў Балло** — гмінны камендант Добраахвотных пажарных каманд у Орлі:

— На тэрыторыі гміны Орля пажарнымі машынамі „Камаз" карыстаюцца каманды ў Орлі і Рыгораўцах. Малінніцкія пажарнікі маюць машыну „Стар-29", а ў Рудутах ездзяць да пажараў „Жуком". Цяпер у вёсках ёсць водаправоды і жыхары могуць самі пачаць тушыць пажар яшчэ да прыезду пажарнікаў, падключыўшы шлангі да гідранта. Але не ў кожнай вёсцы хочуць мець свае шлангі.

Пра пажар мне — шаферу пажарнай машыны — найчасцей паведамляе дзяжурны пажарнай часці ў Бельску, бо туды паступаюць званкі на нумар 998. Калі мяне няма дома, тады паведамляюць маім зменшчыкам. З моманту атрымання паведамлення да выезду на тушыльную акцыю патрэба нам каля пяці мінут. Прыбыўшы да пажарнага дэпо, шафёр уключае сірэну і чакае іншых пажарнікаў. Дастаткова трох, каб выехаць да пажару. Найчасцей выязджае нас шасцёра. Пажарнікі пераапранаюцца ў спецвопратку ўжо ў машыне. Наша каманда распараджаецца васьмю камплектамі вогнеўстойлівай вопраткі, шлемаў з забраламі і воданепранікальных рукавіц. Вязем з сабою 5 тысяч літраў вады, якой хапае на 15-20 мінут, а пры меншым ціску — даўжэй. Калі б падаваць ваду пры дапамозе лафетнага ствала дыяметрам 100 мм, тады вады хопіць толькі на 5 мінут, але струмень вады даляціць тады на 30 метраў. Возім з сабою таксама 300 м шлангаў.

Пасля вяртання з кожнай тушыльнай акцыі пажарнікі развешваюць шлангі для прасушкі і напаўняюць аўтацыстэрну вадою. Часта выязджаем да пажару на другі дзень, каб загасіць тлеючыя папялішчы.

У клуні пажар можа ўспыхнуць у выніку самазагарання сена і найчасцей такое здараецца зімой. Восенню гараць лясы, пераважна ад выпальвання пожняў і лугоў. Людзі не разумеюць, што нельга выпальваць пожню, нават тады, калі няма ветру. Пад уздзеяннем агню ствараецца вецер, які заўсёды нясе полымя ў напрамку лесу.

Трэба таксама правяраць тэхнічны стан электраўстановак у будынках, шчыльнасць комінаў. Пры камуне пажарнікі два разы ў год правяралі сялянскія будынкі і панадворкі, штрафавалі неахайных гаспадароў. Цяпер, на жаль, такой прафілактыкі не робім, бо няма загаду зверху.

Людзі будынкі страхуюць у ста працэнтах, але плады і маёмасць у іх не страхуюць з-за нястачы грошай. А на бяду многа не трэба. Калі пажарнікі прыедуць, агонь паспее нанесці многа шкоды. Гэта жахлівая стыхія.

**Тэкст і фота Міхала Мінцэвіча**

Як гаспадарыць у Збучы

# Будучыня ў маладых гаспадарах

**— На 80 дамоў недзе 5-6 маладых гаспадароў, астатнія — пенсіянеры. Калгас абанкруціўся і сёлета ўжо нават і не аралі на зіму. Ідзе зараз ліквідацыя і будуць прадаваць машыны, — гаворыць Васіль Хворась са Збуча. — Будучыня ў маладых гаспадарах, якія купляюць штораз больш зямлі, маюць усе свае машыны і гаспадарыць ужо больш па-сучаснаму.**

Калі еду ў Збуч, людзей у полі ўжо не відаць, у вёсцы таксама пуста. Васіля Хворася сустракаю ў майстэрні, дзе рамантуе воз. Зяць з дачкою паехалі па дровы. Сын Андрэй, студэнт Варшаўскага універсітэта, ужо адправіўся ў сталіцу.

— Дзеці гаспадарыць не хочуць, дык можа яшчэ 2-3 гады параблю і трэба будзе прадаваць зямлю. Цяпер у мяне 11 гектараў, даўней была гэта нармальная гаспадарка, з якой можна было жыць.

**Зараз такі малы даход**

што калі б не пенсіі, цяжка было б і пражыць, — пачынае расказваць Васіль Хворась. — Добра, што пшаніцу паспеў яшчэ прадаць па 500 злотых за тону. Зараз яна такая танная, што нават і па 400 не возьмеш. Недзе два тыдні ў час жніва купляплі даражэй. Тыя, што якраз тады мелі многа працы і не паспелі завезці, нават і зараз не прадалі — чакаюць, што падаражэе. На рынку таксама мала плацяць, а і браць не хочуць. Калі ўзяць бульбу, дык увогуле не аплачваецца садзіць. Цяпер яна ў нас па 10 злотых за цэнтнер, а калі палічыць расходы на бензін, сродкі аховы і ўгнаенні, то прыбытку няма, не гаворачы ўжо пра сваю працу. Гэта такая цана на рынку, але мала хто хоча і браць. У горадзе свіней ужо і не гадуюць, а далей купляць ужо ніхто і не хоча. Цана на быдла і свіней таксама паніжаецца. Я яшчэ два тыдні таму прадаваў свіней па 3 злоты 40 грошаў за кілаграм, а цяпер плацяць ужо недзе 60 грошаў танней.

У спадарства Хворасяў яшчэ тры каровы, двое цялят і некалькі свіней, але іншыя гаспадары, у якіх больш зямлі, увогуле жывёлы не гадуюць.

— У нас у Збучы

**некалькі маладых гаспадароў,**

у якіх недзе пад 30 гектараў — Яўген Заброцкі, Валодзя Пліс, Алёша Саўчук і Яўген Марчук. Гаспадараць яны ўжо па-сучаснаму, — уключаецца ў размову Ніна Хворась. — Не гадуюць быдла, то і натуральнага ўгнаення не даюць, але ўжо намнога больш сыплюць штучных угнаенняў і розных сродкаў аховы. Пакуль што плён у іх добры, а калі паглядзіш на калоссе ў збожжы — вялікае. Землі ў нас у Збучы добрыя, пшанічна-бурачныя, то можа і без гною будзе ў іх расці збожжа. Калі ўжо садзяць, дык па некалькі гектараў буракоў, а ўсё астатняе пераважна пшаніца і рапс. У кожнага з іх па некалькі трактароў і гэта тыя вялікія, дык могуць яшчэ і дакупіць зямлі. Мы, старэйшыя, або будзем прадаваць зямлю, або аддаваць маладым у арэнду, бо такі час, што не ведаем, што будзе.

**Кароў гадавалі**

бо быў пастаянны прыбытак ад малака, але цяпер, калі зрабілі такія падзелы на класы, то і тут заробак паменшаў, — кажа Васіль Хворась. — Калі ў сярэднім 3,5-працэнтнае малако, то ў класе „экстра" атрымаем пад 70 грошаў за літр, а ў III класе па 40 грошаў. Розніца велізарная! У сярэднім на вёску малако ад 2-3 пастаўшчыкоў ідзе ў клас „экстра", а трэцяга класа найбольш. А гавораць, што пасля новага года ў тых, у якіх часта паўтараецца трэці клас, то ўвогуле браць не будуць. Калі трапляюцца „саматычныя клеткі", тады абавязкова малако ідзе ў III клас і карову, ад якой гэтае малако, трэба прадаваць. Тыя, што многа зямлі маюць, то ні кароў, ні свіней не гадуюць, ні бульбы не садзяць. Усё ж можна цяпер купіць.

**Абанкруціўся ўжо калгас**

у якім дзесяць гаспадароў было, — далей расказвае Ніна Хворась. — Спачатку, калі былі датацыі, добра ім ішло. І трактары маглі купіць без чаргі, і машыны. Апошнім часам гадоўляй ужо не займаліся, толькі буракі садзілі і сеялі збожжа. Зараз, калі ўжо нічога не пасеялі, частку зямлі аддаюць гміне, сваю, якую ўнеслі ў калгас, забяруць назад, а машыны, мабыць, прадаваць будуць (2 камбайны, 4-5 трактароў). Гаварылі, што нейкі гаспадар з Ягаднік хоча калгас купляць. Большасць людзей у калгасе — старэйшыя асобы, якія або ўжо пенсіянеры, або будуць адыходзіць на пенсію, але застануцца і беспрацоўныя. Нават і цяпер ёсць крыху маладых, якія працы не маюць. Тыя, што маюць працу, то ў прыватных прадпрымальнікаў працуюць, найчасцей столярамі або прадаўцамі. Мы, старэйшыя, хоць паспяваць сыдземся або куды паедзем. Апошнім часам на фэсты ў Шастакова і Гайнаўку ездзілі. Аднак будучыня вёскі — у маладых гаспадарах. Тыя, што маюць многа зямлі, будуць мець яе яшчэ больш.

**Аляксей Мароз**

# Зноў звоняць званы

Зноў зазванілі царкоўныя званы ў вёсцы Радзіванішкі Лідскага раёна. Пасля рэканструкцыі тут адкрыўся праваслаўны храм, які спыніў дзейнасць амаль паўвека таму. Узнавіць яго памаглі аграфірма „Мажэйкава", на тэрыторыі якой знаходзіцца царква, а таксама акцыянерныя таварыствы „Лакакраска", „Лідабудматэрыялы", завод электравырабаў і іншыя мясцовыя прадпрыемствы. Не засталіся збоку і прыхаджане.

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў савеце па справах рэлігій Гродзенскага аблвыканкама, за апошнія чатыры гады з дапамогай гаспадарак і арганізацый, пры садзеянні мясцовых органаў улады адноўлена было больш за 30 праваслаўных храмаў. У сямі населеных пунктах вобласці яны былі пабудаваны нанава. Будуюцца яшчэ 11 цэркваў. Цяпер на тэрыторыі вобласці налічваецца 160 праваслаўных рэлігійных абшчын і два манастыры. Духоўныя кадры для праваслаўных прыходаў падрыхтоўваюцца ў вышэйшай духоўнай семінарыі, якая знаходзіцца ў вёсцы Жыровічы Слонімскага раёна.

**Канстанцін Балатэвіч**

*Вечерний Минск № 189, 1.10.1998 г.*

# „Цецеруку" — 50

Ужо пяцьдзесят гадоў дзейнічае кляшчэлеўскі паляўнічы гуртак „Цецярук". Паўвека назад у вёсцы Тапаркі заснавала яго 13 паляўнічых. Першым старшынёю быў Арцём Краўчук з Тапаркоў, лоўчым — Мікалай Дзмітрук і сакратаром — Антон Вярба з Сакоў. Было тады яшчэ шмат зайцаў, дзікоў, качак і курапатак.

У 1950 годзе гурток перавялі ў Кляшчэлі і старшынстваваў яму Міхал Адамец. Паляўнічыя пабудавалі тры вадасховішчы ў падкляшчэлеўскім урочышчы Клебаншчына, пару дзесятак кармушак з дашкамі ды дзевятнаццаць амбонаў.

У 1990 годзе старшынёю паляўнічага гуртка „Цецярук" быў выбраны Мікалай Младзяноўскі, лоўчым — Яўген Адамец, намеснікам лоўчага — Пётр Младзяноўскі, сакратаром — Яўген Савіцкі ды скарбнікам — Рыгор Барана.

Паляўнічыя пабудавалі яшчэ адно вадасховішча ва ўрочышчы Багна каля Сухавольцаў у тры гектары. Законьчылі таксама пабудову паляўнічай амбразуры ў Дабрывадзе. Фінансавыя сродкі атрымалі яны з экспарту жывых зайцаў ды з арганізавання паляванняў для замежных паляўнічых. Шмат працавалі і ў грамадскім пачыне.

Цяпер у гуртку 51 член і 4 кандыдаты. „Цецярук" займаецца падкормкай зімой дзікіх звяроў на лясных участках, на „сваіх" палетках ворнай зямлі садзяць бульбу і буракі ды сеюць збожжа на пашу для звяроў, садзяць лес, ліквідуюць бракан'ерскія прылады і дастаўляюць на паліцыю схопленых на г.зв. гарачым учынку саміх бракан'ераў.

**(гай)**

# Гайнаўшчына пасля выбараў

— Перад выбарамі мы з нікім не пасварыліся і зараз мы адкрыты ў размовах на ўсіх кааліцыянтаў, якія будуць спрыяць нашай праграме і нашаму Камітэту, — кажа старшыня Беларуска-народнага выбарчага камітэта ў Гайнаўцы Міхал Голуб.

У Гайнаўскім павеце Саюз левых дэмакратаў увёў у Павятовую раду 15 сваіх кандыдатаў, БНВК — 6, АВС — 3 і Выбарчы камітэт „Разам" — 1.

У горадзе Гайнаўка СЛД увёў у Гарадскую раду 10 сваіх кандыдатаў, АВС — 8, БНВК — 7 і ВК „Разам" — 3.

Ад БНВК раднымі Павятовай рады ў Гайнаўцы будуць: Рыгор Тамашук, Віктар Рэент, Мікола Бушко, Яраслаў Герасімюк і Вера Дудзіч.

Радныя БНВК у Гарадской радзе Гайнаўкі гэта: Яўген Сачко, Анатоль Аксантовіч, Міхал Байко, Міраслаў Мордань, Васіль Іванюк, Ірына Сегень, Мікола Галёнка.

Радныя БНВК у гмінах:

— Чыжы — Ян Адамчук, Мікалай Купрыяновіч, Міраслаў Грыгарук, Ян Анішчук.

— Гайнаўка — Лешак Шарэйка, Канстанцін Патэюк.

— Кляшчэлі — Вера Філіновіч, Міхал Календа і Таіса Санчанка.

— Нарва — Стэфан Кучынскі.

Вынікі заўсёды маглі б быць лепшыя, але такое ў нас выбарчае палажэнне, што радным становіцца кандыдат з меншай колькасцю галасоў, але з мацнейшай партыі. Вялікая катавасія атрымалася таксама і з нумарамі спіскаў, калі пасля жарабёвак нумар нашага спіска ў кожнай гміне быў іншы і выбаршчыкам цяжка было ў гэтым разабрацца. Відаць было вялікае расчараванне выбаршчыкаў папярэднімі галасаваннямі, таму і прысутнасць на выбарах была невялікая — каля 40%, — гаворыць старшыня БНВК Міхал Голуб. — Думаю, што Камітэт, які працаваў перад выбарамі, не распусціцца, а будзе выпрацоўваць розныя справы, якія будуць старацца рэалізаваць нашы радныя. Будзем намагацца ажыццявіць нашу передвыбарчую праграму. Карыстаючыся нагодай, дзякую ўсім выбаршчыкам, якія галасавалі на нашых кандыдатаў, членам камітэта, якія працавалі перад выбарамі і жадаю ўсім нашым радным плённай працы на карысць асяроддзя, каб рэалізавалі нашу праграму для дабра Гайнаўскай зямлі.

**Аляксей Мароз**

# „Міцкевіч вялікім паэтам быў"

У сувязі з сёлетнімі святкаваннямі двухсотай гадавіны з дня нараджэння Адама Міцкевіча амаль кожны дзень дзесьці нехта ў нейкі спосаб адзначаў гэтую падзею. Адбываліся канферэнцыі, акадэміі, арганізаваліся ўсялякія дыскусійныя сустрэчы, адкрываліся помнікі і мемарыяльныя дошкі. Пра самога Міцкевіча ў гэтым вялікім шуме пакуль што нічога новага ніхто не сказаў, але была нагода неабмежаваную колькасць разоў аб'явіць: „Міцкевіч вялікім паэтам быў".

Прэзідэнт беднай беларускай дзяржавы выдаткаваў на святкаванне юбілею Міцкевіча мільён долараў. Рэканструяваліся аб'екты, звязаныя з асобай польскага паэта, а ў вераснёўскіх урачыстасцях у Навагрудку ўдзельнічаў прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг. Планавалася прысутнасць Аляксандра Лукашэнкі, але з прычыны нізкага рангу польскай дэлегацыі (адсюль прыехаў толькі ўраднік рангу дырэктара музея) прыезд кіраўніка дзяржавы быў адменены. Саветы ніколі аднак з такім размахам не ўшаноўвалі памяці паэта, які пісаў на роднай мове, найчасцей лічылі гэта праявай нацыяналізму, а пры Сталіне — нават злачыннай дзейнасці.

Ва ўсялякіх міцкевічаўскіх урачыстасцях у Беластоку прымала ўдзел шмат моладзі. Вучні ад доўгіх гадоў маюць абавязак чытаць „Пана Тадэвуша", „Дзяды", „Конрада Валенрода" і іншыя творы гэтага паэта. Раней нават чыталі. Праўда, не ўсе, але сёння палова тых, якія ў сямідзесятыя гады вучыліся ў ліцэях, можа ганарыцца тым, што прачыталі „Пана Тадэвуша". З „Дзядамі" ўжо было горш. Нават больш руплівыя вучні наракалі, што нічога не разумеюць, але на ўроку не выпадала да гэтага прызнавацца. Сёння няма такіх праблем з чытаннем твораў Міцкевіча. Агульнадаступнымі сталі ўсялякія апрацоўкі, дзе на пяці старонках сказана ўсё, што патрэбнае вучням, каб даказаць настаўніку, што „Міцкевіч вялікім паэтам быў" і таму яны з захапленнем прачыталі прапанаваныя школьнай праграмай творы. У адной з беластоцкіх школ настаўніца спытала вучняў, колькі з іх у сапраўднасці прачыталі „Пана Тадэвуша". Сярод 34 прысутных толькі адна вучаніца падняла руку, але і яна прызналася, што чытала гэта дзеля выканання школьнага абавязку.

У аўтобусе н-р 5 група ліцэістаў даволі голасна вяла дыскусію пра творчасць Адама Міцкевіча.

— Stara pożyczyła gdzieś „Pana Tadeusza" i musiałem wczoraj czytać cały wieczór. Nawet nie wiem kiedy zasnąłem, — гаварыў адзін.

— A ja kiedyś próbowałem czytać „Dziady". Przeczytałem chyba dziesięć stron, ale nic kompletnie nie zrozumiałem, — дадаў другі.

— Klasówkę napisałem na czwórkę, bo miałem dobrą ściągę.

— To jakaś chińszczyzna. Po co każą nam to czytać?

Яшчэ нядаўна, калі малады чалавек так сабе нават думаў, ніколі не сказаў бы гэтага так адкрыта. Штодзённае жыццё аказалася больш гратэскным чым „Фэрдыдуркэ" Вітальда Гамбровіча. Пасля юбілейнага года кожны малады чалавек зможа пераканаўча сказаць: „Міцкевіч вялікім паэтам быў, таму што... вялікім паэтам быў". **(ям)**

# Папраўка

У маім артыкуле „На беларускім памежжы" („Ніва", н-р 41) прапала адно слова, што змяніла сэнс прыводжанага мною выказвання прафесар Альжбеты Смулковай. Сказала яна: „Няма сэнсу разглядаць беларускіх палякаў у катэгорыях нейкай маналітнай нацыянальнай супольнасці. Можна гаварыць аб розных абліччах польскасці ў гэтай краіне — ад нацыянальна свядомых палякаў да тых, якіх „польскасць" зводзіцца да каталіцкасці". У артыкуле, які пакazaўся ў друку, па нявысветленых прычынах не хапіла слова **маналітнай**, што стварыла канструкцыю фразы супярэчную з тэзісам аўтаркі рэферата. Прафесар Альжбету Смулкову і чытачоў „Нівы" шчыра перапрашаю.

**Яўген Мірановіч**

# Падвіленскае вяселле

У сваіх падарожжах у пошуках песеннай душы народа Галіна Таўлай вандравала і па Віленшчыне. У ліпені таварышам яе вандроўкі быў Сяржук Вітушка з Вільні.

— Хадзілі мы па вёсках, як і цяпер па Беласточчыне, збіралі беларускія, „простыя" песні. Ад старэнькай бабулькі ў адной вёсцы запісалі чатыры песні. Нам раней падказалі, што ў гэтай вёсцы ёсць „зэспул". Мы зайшлі да дому жанчыны, якая кіруе гэтым „зэсполам". А яна нам кажа: „Наш зэспул — польскі, мы спяваем толькі польскія песні..." Трохі смешна сказаць, але вучылася яна калісьці з нашым Адамам Мальдзісам, абое паходзяць з Астравецкага раёна, абое ў свой час паехалі ў Вільню, паступілі ў польскі педінстытут. „Я гэтую беларускую мову ненавіджу!" — шчыра прызналася пані. Цяпер яна вучыцелька польскае мовы. Падступаю да яе: „А як ваша мама размаўляла?" — „Мама па-просту мувіла". А якія песні вы спяваеце? Праспявала нам кіраўнічка „зэсполу" ўвесь свой спеўнік. Усё рамансы, познія песні. Мы цярпліва з Сяргеем усё выслухалі. Стамілася яна крыху. Прашу яе: „Скажыце, як вяселлі калісь ладзіліся, па-просту, як ваша мама мувіла". І загаварыла яна па-беларуску ды так, што аж душа радавалася, як добра. І ўсё прыпамінае: „Я маме мувіла: «Мама, як бэндзеш до мне мувіць по-просту, то я не бэндэм одповядаць»". Але калі ейная мама зусім старэнькая стала, забылася па-польску, і толькі па-беларуску гаварыла, не магла ўжо іначай гаварыць. Папрасілі мы гаспадыню праспяваць песні матуліны. І шаноўная пані-кіраўнічка польскага „зэсполу" заспявала нам песні Астравеччыны, вядома, па-беларуску. „Бэндэ мувіць по-польску" — пра хрысцінныя песні. А мы зноў: „А як пані мама мувіла..." І мы так гадзіны дзве гаманілі..

А тут раптам мужык гаспадыні ўлятае, злы такі! „Цо тут одбыва се? Длячэго обцэ людзе пшышлі?! Длячэго седзіш? Тыле працы! А ту не вядомо кто і по цо! Можэ якесь бандзёры!.." Давай мы выцягваць свае дакументы, а пані папракаць мужа, што, маўляў, ты ж не ведаеш, якія людзі да нас прыйшлі, што ты на іх крычыш! А ён усё больш злуецца, глядзі, біцца будзе з жонкаю! Сяржук паказвае сваё пасведчанне з працы: „Вы мяне будзеце бачыць у тэлевізіі (дарэчы, зрабілі мы сюжэт з адной бабулькай-спявачкай, пойдзе ён у віленскай беларускай праграме). І я прадстаўляюся. Аказваецца, наш гаспадар — таксама музыкант. Супакоіўся, ведае, чаго мы тут шукаем. „Што я тут буду вам расказваць, прыходзьце сёння на вяселле, я іграю".

І мы з Сержуком пайшлі на тое вяселле, запрошаныя маршалкам. Усе за сталом ужо сядзелі. Музыкант прадставіў нас як журналістаў. Нам не вельмі зручна, бо нам адразу — чарачку, талерачку...

Вяселле было такое, як зараз усюды. Наш дзядзька іграе на акардэоне і на бубне, выпаўняе і абавязкі маршалка вельмі добра, традыцыйна. Песні ў асноўным — папулярныя, рускія, польскія. Усе сядзяць радамі, спяваюць. Нехта гаворыць нешта па-польску, добра ламае язык, нехта па-руску, інакшай мовы не ведае, а большасць людзей з вёскі (маладога бацька, маці і старэнькі дзед) — па-беларуску. Трохі ў нас іншая гаворка, але яны гавораць лепш як мы, бо я кажу такой літаратурнай мовай, а бацька маладога прамаўляе такой выключнай беларускай мовай! Кажа, што і на працы таксама так гаворыць; займаецца на нейкім заводзе вылічальнымі машынамі, і ўсё яго пытаюць: „Хто ты?" — „Поляк." — „Поляк? Калі так, то ж моцна абеларушаны". — „Ха-ха-ха!" — смяецца бацька маладога. Кажу: „Вы ж проста чыста па-беларуску гаворыце". Але ім здаецца, што гэта нейкі мясцовы дыялект, тая „простая мова".

Наш маршалак жартуе: „А цяпер паглядзім, ці не кульгае на адну нагу наша маладая?" Усё традыцыйна, але ўжо пад нейкую рок-музыку. „А цяпер паглядзім, ці ў нашага маладога не тры нагі?!" — такія жартачкі! Шмат анекдотаў расказваў, я многа з іх запісала — па-беларуску, але шмат выразаў польскіх. Дарэчы, я тут сустрэла аднаго хлопца з Кракава, аспіранта вядомага этнамузыколага Станішэўскага. Ён займаецца тэмай „польская культура на Віленшчыне". Палякі гэтым цяпер страшэнна займаюцца — з Варшавы, з Познані высылаюцца экспедыцыі. Я з імі размаўляла; як гэта так, запісваць песні „простыя" ў перакладзе! Я ж чула тыя пераклады! Наша знаёмая кіраўнічка польскага „зэсполу" сама старалася іх перакласці. Але зараз у традыцыі Віленшчыны ёсць песні і польскія, і беларускія, і літоўскія. Ёсць такія, якія спяваюць і па-польску, і па-беларуску, і па-літоўску. І гэты малады навуковец даў мне свой адрас; ведае Віленшчыну добра, возіць як этнамузыколаг сюды студэнтаў. Знайшлі мы з ім супольную мову, бо і цікавасць такая самая, абяцаў даваць мне нейкія матэрыялы. Ён разумее праблему сапраўды, так яно ёсць. Ён разумее — „па-просту" — гэта па-беларуску. Няма ў яго ніякіх шавіністычных поглядаў, так як яно павінна быць у сапраўднага навукоўца, у спецыяліста.

Выбрацца з тае вёскі было б цяжка, залезлі ж мы ў такі кут! Але адзін цвярозы госць пачэсна падвёз нас да бальшака — да шашы Менск-Вільня. Але ўначы хто прыпыніць машыну? Ніхто. Ужо думалі мы пешкі ісці. Ну, што там, 30 кіламетраў, да 5 гадзіны хіба дойдзем... Але адзін чалавек, ехаўшы з Калінінграда, добрая душа, адважыўся затрымацца, і завёз нас у Вільню. А на сёмую ў мяне быў ужо білет у Беласток... Па новыя ўражанні і скарбы!

**Запісала Міра Лукша**

# Чыя перамога?

[1 ☞ працяг]

кай „Еднасці" толькі 11. Такім чынам, паводле чыстай логікі, Андрэй Сцепанюк павінен надалей кіраваць гарадской адміністрацыяй. Управа горада Бельска, таксама як Беластока, атрымала адабрэнне для свае дзейнасці.

Найбольш дэмакратычны характар публічнага жыцця адлюстроўваюць вынікі выбараў у Гайнаўцы. Хаця пераможцам стаў СЛД, які атрымаў там 10 мандатаў, аднак каталіцка-салідарніцкі камітэт будзе мець 8 радных, а беларускі — 7. Цікава, хто з кім створыць у Гайнаўцы кааліцыю. Папярэдняя, эсэлдоўска-беларуская, не была надта шчаслівым партнёрствам.

У гмінах усходняй Беласточчыны праўдападобна ніякая рэвалюцыя не адбылася. Там змагаліся людзі, а не партыі. Нам вельмі прыемна толькі адзначыць, што наш карэспандэнт з Орлі Міхал Мінцэвіч рашуча перамог у сваёй акрузе, дзе атрымаў звыш ста галасоў больш за свайго канкурэнта, які апынуўся на другім месцы. Віншуем!

**Яўген Мірановіч**

**Іпаліт Краскоўскі**

# Іцка крамар

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

**IV**

Ён рашыў падзяліцца сваёй сардэчнай думкай з маці, якая так горача кахала яго. Бо і з кім жа яму параіцца, як не з маці? Маці выслухала яго, пакруціла галавой.

— Ах, цяжка, цяжка быць крамаром, — прамовіла яна з глыбокім уздыхам. — Ты сынок, не ведаеш, як цяжка.

— А ці ведаеце вы, даражэнькая, — сказаў, таксама ўздыхаючы Іцка, — як душна, як цяжка сядзець над гэтай вялікай кнігай. Ох, мамэлэ, вы не ведаеце, як цяжка.

Маці ўважліва, напружана зірнула ў твар Іцку, бледны, уздрыгваючы ад хвалявання. Яна болей не пярэчыла яму, магчыма, пагадзіўшыся з ім, што сядзець над вялікай кнігай Талмуда цяжэй, чым быць крамаром, а мо і таму, што пад яе вейкі набеглі слёзы.

У канцы тыдня, перад самым прыходам старога Ізраіля дамоў на шабас, Іцка зноў нагадаў маці пра сваё рашэнне дапамагаць бацьку ў ягоным цяжкім заробку.

Прамінуў шабас. У наступны дзень бацька зноў выбраўся ў падарожжа з каробкай. Іцка, як заўсёды, хацеў правесці яго, але стары Ізраіль строга заўважыў: „Пара, сынок, у школу, ты траціш шмат часу непатрэбна, кожны раз праводзячы мяне”.

Іцку здзівіла такая заўвага бацькі. Ён абаперся плячыма аб вушак дзвярэй, за якімі знік стары Ізраіль, і доўга стаяў, не варушачыся, і амаль бяздумна. Перапужаная маці стала песціць яго, разважаць, увіхацца пры тым, каб што-небудзь смачнейшае ўвапхнуць яму ў кішэню на сняданак у школе.

— Не, я больш не пайду да меламеда ў хедар! — Нечакана заявіў Іцка маці. — Я даганю бацьку, пайду за ім, не адстану ад яго, нізашто не адстану.

І мігам выбег з хаты. Ён дагнаў бацьку ўжо далёка за мястэчкам. Стары Ізраіль неспакойна затрымаўся, пачуўшы за сабою крык сына. Ён падумаў, ці дома не здарылася якое-небудзь няшчасце, бо ён ніколі не прадбачваў такой рашучасці ў свайго хлапчука.

— Ойча, я пайду за табою! — апавясціў Іцка. — Я не магу сядзець там, за тою вялікай кнігай, я памру...

Стары Ізраіль спачатку разгубіўся, але потым схапіў сынка за пэйсікі, даў яму нагой некалькі выспяткаў.

— Марш дахаты, марш! — крыкнуў ён, — а не, то я цябе павучу гэтым вось сукаватым кіем. Ты, маленькі дуралей, нічога не разумееш...

Але бедненькі, худзенькі сыночак Ізраіля так жаласліва плакаў, так прыпадаў да бацькавых ног, так горача цалаваў ягоныя загарэлыя мазолістыя рукі... І адчуваў стары, як па гэтых руках ліюцца слёзы яго адзінага нашчадка, яго радасці, яго надзеі.

Злітаваўся стары Ізраіль над сынам, толькі прамовіў: „Памятай, загубіш сябе”, — ды потым пайшоў сваёй дарогаю.

Іцка крочыў за бацькам. Той азірнуўся і прыбавіў кроку, згорбіўся пад каробкай, злосна таўкучы кіем засохлыя камякі глiністай дарогі. Раптам кій неяк вывернуўся з рук старога і ўпаў на дарогу. Крамару цяжка было са сваёй ношай нагнуцца па яго. Іцка мігам падбег да бацькі, падняў і падаў яму кій.

— Вялікі Божа Ізраіляў! — набожна прамовіў стары. — Відаць, Ты хутка возьмеш слугу свайго ў сялібу ягоных прашчураў, калі пасылаеш яму сына ў пасобнікі ягонае старасці.

Ён прыняў кій з рук хлопчыка, падзякаваў за паслугу і запрасіў ісці за сабою.

Шчасце спадарожнічала крамарам. У першым жа панскім двары, дзе рыхтаваліся адначасова аж тры вяселлі чэлядзі, раскупілі значную частку іхняй каробкі. Яны ўтаргавалі столькі грошай, што ўся сям'я Ізраіля магла на іх жыць у дастатку два тыдні. Ізраіль вырашыў ісці дахаты і канчаткова падрыхтаваць Іцку ў дарогу з яго ўласнай маленькай каробачкай і асобным разлікам даходу.

Такім чынам Іцка стаў крамаром. Ён хадзіў разам з бацькам і гандляваў удала: з маленькім крамаром любілі пажартаваць, асабліва ў панскіх дварах і ахвотна набаўлялі яму некалькі дадатковых капеек.

Іцка хутка вырас, узмацніўся. Неўзабаве ў яго склаўся ўласны капітальчык, і стары Ізраіль пачаў падумваць пра тое, як ён ажэніць свайго сына, як будзе цешыцца ўнукамі.

Але не здзейсніліся гэтыя радасныя мары старога Ізраіля.

Рыхтуючыся да вяселля каханага сына, стары Ізраіль з заміраннем сэрца пералічыў сваю гатоўку, якую яму ўдалося захаваць на чорны дзень. Аказалася мала грошай, ох, як мала, мабыць, і на вяселле не хопіць. А потым за што жыць, за што жыць яго сям'і? Зажурыўся стары. „Не, трэба не на адзін, а на два, тры тыдні пайсці з таварам з хаты, — рашыў ён урэшце. — Трэба пайсці далёка, пад пушчу, па стралецкіх хутарах ды па вёсках асочнікаў* пакруціцца. Там здаўна вольны народ, заможны. Там будзе добры заробак. Трэба толькі тавару даражэйшага прыхапіць”.

І крамары падаліся ў дарогу на два, а можа нават на тры тыдні з дарагім, але лёгкім галантарэйным таварам. Каробкі не надта абцяжарвалі ім плечы. Была вясна цёплая, сухая. Весела ішлося гандлярам.

Прайшлі падлесныя сёлы, наблізіліся да пушчы. Спадзяванні старога Ізраіля сталі збывацца. У хутарах стральцоў і паселішчах асочнікаў ахвотна раскупілі ў іх тавары.

Надвячоркам аднаго дня крамары зайшлі ў вялікае сяло. На яго ўскраіне стаяла царква і пры ёй дом святара. Зайшлі. Здалёк яшчэ, калі яны толькі што заходзілі на панадворак, да іх далучыў спеў скрыпкі. З якойсьці незвычайнай сілай паўздзейнічалі гэтыя гукі на слых маладога крамара. Ён уздрыгнуў, сэрца замерла ў грудзях.

Каля расчыненага акна, у якое, падпарадкоўваючыся гарэзліваму ветрыку, урываліся галінкі расцвіўшага бэзу, сядзеў святар, яшчэ малады такі, з невялікай русай бародкай і задуменна вадзіў смыком па струнах. Крамары знялі шапкі і асцярожна сталі набліжацца да дома. Раптам аднекуль выскачылі два сабакі і заядла забрахалі на незнаёмых людзей. Святар апусціў руку са скрыпкай, вызірнуў праз акно і прыкмеціўшы крамароў, што кланяліся яму, весела крыкнуў:

— Не бойцеся, не бойцеся! Яны не ўкусяць. Заходзьце да мяне... З сяней дзверы направа.

Крамары ўвайшлі ў вялікі пакой.

— Ну, развязвайце свае карабы, а я зараз дзяцей паклічу: яны ў садзе гуляюць... А забаўкі маеце?

— А як жа ж, ойча дабрадзею, — прамовіў з паклонам стары Ізраіль і стаў развязваць сваю каробку.

Іцка стаяў нерухома, шырока вырачыўшы вочы... Яму прыгадалася скрыпка дзядзькі кантара, у яго душы прамільгнулі матывы пакаяльнай малітвы.

— А ты што так стаіш са сваёй каробкай? — запытаўся святар, паклаўшы скрыпку на стол, кіруючыся да дзвярэй і абмінаючы маладога крамара.

— Хораша вы ігралі, айцец дабрадзей, — прамовіў ён, нізка кланяючыся святару. — Таксама прыгожа, як мой дзядзька кантар іграе.

Святар затрымаўся і задуменна ўсміхнуўся.

— Як твой дзядзька кантар, кажаш? — перапытаў ён маладога крамара. — Гм, гм! Як твой дзядзька кантар! Або ж ён духоўныя песні іграе твой дзядзька кантар?

— Ага, — загаварыў малады крамар, — ох, як прыгожа ён іграе...

Святар узяў у рукі скрыпку і смык, абаперся аб стол і, павярнуўшыся да крамароў, павёў смычкам па струнах.

З першых жа зыкаў скрыпкі Іцка ўвесь абярнуўся ў слых. Ён падаўся ўсім целам наперад, па твары ягоным прамільгнулі нервовыя дрыжыкі...

Святар нечакана падняў вочы, агарнуў позіркам крамароў і заўважыў уражанне, якое ён зрабіў на Іцку. Ён зноў апусціў зрок, быццам заглыбляючыся позіркам кудысьці ў глыбіню скрыпкі. Смык шпарчэй замільгаў па струнах, гукі са скрыпкі паплылі магутнейшыя — так і ўпіваліся ў сэрца маладога крамара, так і пранікалі кудысьці ў самую глыбіню ягонай уражлівай душы.

Іцка плакаў тымі міжвольнымі шчодрымі слязьмі, якія выклікаюцца захапленнем і падаюць быццам вялікія жамчужыны з галоўкі прыгажуні, быццам буйныя кроплі веснавога ажыўляючага ўсё дожджыку на зямлю, калі яна адраджаецца. Стары Ізраіль крыху схіліў набок галаву і склаў на крыж рукі на грудзях.

Нечакана гранне скрыпкі абарвалася.

— Ах, а-ха-ха! Якая прыгожая музыка! Ох, якая прыгожая! — уздыхаючы захапляўся стары Ізраіль.

— Ты плачаш, хлопча, — заўважыў святар. — Ты любіш музыку? Так, гэта сумныя матывы, — дадаў, не чакаючы адказу на сваё пытанне. — А цяпер паслухай: гэта песня будзе весялейшай, гэта песня вясны. Слухай.

І святар зноў крануў смыкам струны. То на самай справе была песня вясны. Сэрца ажыло ў маладога крамара. Ён хуценька выцер кулаком няпрошаныя слёзы, і вочы ягоныя заззялі радасным пачуццём жыцця, якое абнаўляецца. Тут і жаўрук з-пад смыка звонкай песняй заліваецца, чутно нават, як падымаецца ў паветраны блакіт, усё вышэй і вышэй... Так, Іцка ў гаю: гэта птушкі весела шчабечуць, гэта салавей пачынае спеў... Замоўк. Адно чуваць: як вецярок прашумеў у маладой лістоце, як недзе далёка струменьчык цурчыць. Не, гэта не струмень, гэта мушка бзынкае, тая залатая мушка, што трымцела над Іцкам крыльцамі, калі ён, правеўшы бацьку, адпачываў у лесе, стомлены чытаннем вялікай кнігі ў меламеда...

Крамары пайшлі ад святара, прадаўшы яго дзецям шмат забавак па сваёй цане. Іцка крочыў амаль не адчуваючы пад сабою ног, амаль не ўсведамляючы, куды і чаго ідзе. Пачутыя ім мелодыі напаўнялі ўсю яго існасць. Лёс ягоны быў вырашаны. Калі крамары пасля шчодрага заробку вярнуліся дахаты, Іцка падаўся да дзядзькі Моўшы і стаў яго благаць, каб навучыў іграць на скрыпцы. Дзядзька доўга не пагаджаўся гэтак раптоўна змяніць увесь уклад жыцця Іцкі і ягонага старога бацькі. Ці збіраешся мо жаніцца? Або жанатаму да скрыпкі, або пачынаючаму вучыцца музыкі перад жаніцьбой?

Іцку, аднак, удалося ўблагаць дзядзьку. Моўша разам з ім падаўся да старога Ізраіля.

Стары безудзельна выслухаў просьбу свайго сына і толькі з сумам заўважыў:

— Ох, не будзе толку, калі так часта мяняць занятак. То на вучонага рыхтаваўся, то ў крамары ўпрасіўся, а зараз музыкам хоча быць. Ох, не будзе толку!

Але ўсё ж пакінуў Іцку дома і дазволіў яму купіць скрыпку.

У Іцкі пачалося новае жыццё. Цэлыя дні ён праводзіў са скрыпкай. Хутка стаў разбірацца ў нотах, але цяжка было яму іграць па іх: усё асабістая музыка аднекуль з патайных куточкаў душы пад смык упрошвалася...

Прамінула лета. Іцка ўжо стаў іграць не горш за дзядзьку Моўшу. Ён нават са слыху пачаў падбіраць мелодыю той веснавой песні, якую іграў святар. Так, так, напэўна, тыя ж матывы, толькі многага, многага не хапае. Іцка вельмі добра тое ўсведамляе... Але ж аніяк яму песенька мушкі не выходзіць.

Іцка з новым запалам браўся за смык.

Стары Ізраіль цешыўся ўменнямі сына, але чым больш заўважальнымі былі гэтыя ўменні, тым больш натужліва ён працаваў і ўсё ніжэй і ніжэй згінаўся пад каробкай, і ўсё больш і больш пакідалі яго сілы.

Аднойчы, вярнуўшыся дамоў з далёкага падарожжа ў восеньскі дажджлівы дзень, стары Ізраіль злёг у пасцелю. Ён ужо не здолеў падняцца: цяжкая хвароба цалкам змагла старога.

Каб не непакоіць хворага бацьку, Іцка пачаў хадзіць да дзядзькі Моўшы і там іграць. Так доўжылася больш тыдня. Пры дзядзьку Іцка іграў па нотах, але толькі той выходзіў з хаты, зноў асабістая музыка Іцкі пад смык уціскалася. Калі аднойчы ён увесь быў захоплены гэтай музыкай, і вось-вось ужо ўлаўліваў самыя цяжкія матывы ў веснавой песні святара, як яго раптам паклікалі да хворага бацькі, якому моцна пагоршылася... Іцка са скрыпкай у руках хутка пабег дахаты. Бацька з заняпалымі шчокамі, мутным позіркам і цяжкім дыханнем пауляжаў на падушках.

— Сыне мой, — сустрэў ён Іцку пяшчотна. — Мне цяжка, мне сумна... пайграй мне!

Іцка радасна ўхапіўся за смык. „А што ж зайграць?” — мільганула ў яго думках. Але ўся душа яго яшчэ была напоўнена мелодыяй веснавой песні. Ён і стаў іграць гэтую песню...

Ён прыкмеціў, як паволі выгладжваліся на твары хворага бацькі глыбокія зморшчыны, як вочы ягоныя заззялі мяккім святлом; сын адчуваў, як дыханне хворага станавілася больш роўнае, ціпейшае... Ён быў шчаслівы, што яму ўдалося аблегчыць пакуты каханага дарагога бацькі.

Раптам стары трывожна заварушыўся і ледзь чутным голасам прамовіў:

— Даволі, падыдзі да мяне, сыне мой...

— Пачакай, пачакай, даражэнькі, — у захапленні папрасіў Іцка, — я зараз закончу!

— Не, не, — прашаптаў стары. — Падыдзі да мяне... Хутчэй... Я благаслаўлю цябе... Я ўміраю...

Скрыпка выпала з рук Іцкі і пабілася... Ён збялеў, задрыжаў, быццам асенні лісток пад ударам навальніцы... У гэты момант стары Ізраіль громка застагнаў. Іцка кінуўся наперад і прыпаў да грудзей паміраючага бацькі...

*(працяг будзе)*

**Пераклад з рускай**
**Міколы Гайдука**

* Асочнікі — сяляне, якіх абавязкам было ачышчаць лес, наганяць звяроў, нарыхтоўваць сена зубрам і г.д. (Аўтар).

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Лічылка

Палічыць не мог жучок
сваякоў сваіх,
хоць так лёгка палічыць
сваякоў усіх.

Адзін — дзядуля,
два — бабуля,
а тры, чатыры — мама з татам,
а пяць і шэсць — сястрычка
з братам,
а сем, а сем — ён сам, жучок,
жучок — чарнюсенькі бачок.

Вось у школу, у першы клас,
наш жучок бяжыць,
пачынае першы раз
сваякоў лічыць.

„Адзін — дзядуля,
два — бабуля,
а тры, чатыры — мама з татам,
а пяць і шэсць — сястрычка
з братам...
А сем, а сем?.. Гэта сам я!
Сямёра — цэлая сям'я".

**Васіль Жуковіч**

## Орлю наведваюць школы



*Вучні і настаўнікі з Храбалоў.*

Фатаграфічную выстаўку Міхала Мінцэвіча „Пяць стагоддзяў Орлі і наваколля" (што знаходзіцца ў будынку Пачатковай школы ў Орлі) у верасні г.г. наведала ўжо некалькі школ. Вучні з зацікаўленнем паглядзелі фотаздымкі, дакументы ды артыкулы на тэму мінулага і сённяшняга дня Арлянскай гміны. Паясненні да выстаўкі тлумачыў аўтар, ён таксама зрабіў школьнікам памятныя здымкі. Экскурсіі наведалі арлянскую сінагогу і стары жыдоўскі могільнік, які ў Орлі завуць *кворэс*.



*Наведвальнікі з Рыбалаў.*

**Школа ў Храбалах**

Як першыя наведалі нас вучні з Храбалоў. Было гэта 16 верасня. Сярод школьнікаў былі дзеці якія вучацца беларускай мове.

— Наш школьны будынак мураваны. Але ён не такі прыгожы як ваш, — сказала настаўніца Ірэна Яфімюк, якая навучае роднай мове ў IV і VIII класах. З дзяцьмі прыехала таксама Крыстына Карольчак (настаўніца беларускай мовы ў II і III класах) і Аляксандр Хіліманюк. Беларускай мове навучае яшчэ Ірэна Матус (V, VI і VII класы).

У Храбалах 149 вучняў. Найбольш школьнікаў у малодшых класах. У першым класе, напрыклад, 24 першакласнікі.

У школе можна вывучаць без дадатковых аплат англійскую мову. Дзеці з навакольных вёсак прыязджаюць школьным аўтобусам, а школьнікі з Гацькоў і Праневіч рэйсавым аўтобусам ПКС (ім школа звяртае грошы за білет). Восенню і зімой дзеткам ладзіцца *дожывяне* (булачка і гарбата). Дзейнічае таксама школьная крама, якая свой прыбытак прызначае на пакупку кніг у школьную бібліятэку.

**Школа ў Рыбалах**

24 верасня выстаўку „Пяць стагоддзяў Орлі і наваколля" наведалі вучні Пачатковай школы ў Рыбалах. якія вучацца беларускай мове. У самой школе, разам з нулявым класам 104 вучні. — Лік дзяцей паменшваецца, — сказала настаўніца беларускай мовы Яўгенія Грыб. Самы вялікі ў школе шосты клас, у ім 21 вучань. На ўсю школу толькі 23 асобы вучыцца беларускай мове, а ў трэцім класе зусім няма навучэнцаў гэтага прадмета. Родную мову выкладае яшчэ Ніна Харытанюк.

У школу ходзяць дзеці з Канюк, Целушкоў і Давідавіч. Найбольш іх з калгаса (ПГРа) Рыбалы. У Рыбалах, як і ў Храбалах, дзеці даязджаюць на школьным і рэйсавым аўтобусе ПКС, а школа звяртае за білеты.

**Школа ў Пасынках з сядзібай у Крывой**

— У нас 49 вучняў, — сказала настаўніца Ірэна Шэшка. — Неўзабаве адыдзе восьмы клас, а нулявога, мабыць, і не будзе. Чаму так? Часта бацькі запісваюць сваіх дзяцей на вясковы адрас. Пазней, калі пераязджаюць у гарады, дзеці ідуць там у школу. — У нашай школе сямейная атмасфера. Усе вучні дагледжаны і заўважаны. З Крывой прыехала да нас цэлая школа.

* * *

Вяртаючыся з Орлі, наведвальнікі звычайна заходзілі купіць салодкія пернікі і, мабыць, Орля запамяталася ім як сімпатычнае мястэчка.

**І Дубічы-Царкоўныя**

Згаданыя экскурсіі прыехалі аўтобусам. Інакш вырашылі знаёміцца з нашай мясцінай вучні з ПШ у Дубічах-Царкоўных. Вучні VII і VIII класаў разам з настаўнікам Славамірам Кулікам прыехалі на веласіпедах.

У памятнай кнізе напісалі яны: Паводле выстаўкі Міхала Мінцэвіча можна стварыць новы прадмет — гісторыя майго рэгіёна.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

## Таемная мова

Пішу я да Вас у справе артыкула Крысі Шчэрбы з Белавежы („Ніва", ад 27.09.1998 н-р 39). Гэтага ліста я не магу дакладна зразумець. Тут Крыся піша, што яна была на Сустрэчах „Зоркі". Але яна мо (гэта праўдападобна першы раз) была на гэтых сустрэчах так, як я на Крыме, або не жыве ў Белавежы, а ў „Warszawie", бо піша па-польску. Смешна. Крыся напэўна не ведае, што на Беласточчыне існуе беларускі і ўкраінскі дыялекты. Мы паслугоўваемся беларускім дыялектам, якім і напэўна людзі гавораць у Белавежы а ўжо на 100% на нашых беларускіх вёсках. Удзельнікі апошніх сустрэч амаль у 60% гэта дзеці і моладзь вёскі. Я сам з вёскі і найчасцей са сваімі сябрамі і бацькамі (а таксама знаёмымі з вёскі і суродзічамі) гавару на нашым беларускім дыялекце. І так Крыся гэты „tajemniczy język", якім гавораць тысячы людзей і моладзі на нашых беларускіх вёсках гэта тое самае, што дыялект. Гэта праўда, што Крысю цікавіць гэты „tajemniczy język", якім гавораць нашы дзядулі і бабулі. Калі Крысю гэта цікавіць, то ёй раю самой вучыцца гэтага „tajemniczego języka". Навука вясковага дыялекту гэта першы крок да навукі беларускай мовы. Прыпамінаюцца мне ўрокі беларускай мовы ў пачатковай школе, як я стаўляў першыя крокі на сцяжынцы роднай **беларускай** мовы. А гэта ўсё заўдзячваю настаўнікам той мовы: Марыі Саевіч, Марыі Карпюк і Ірэне Нявінскай. Але на мой шлях жыцця не ўвялі толькі ўрокі беларускай мовы, але і перадачы па Радыё Беласток і ў тэлебачанні. Увялі таксама і беларускія кніжкі, якіх шмат я прачытаў. Крысі раю таксама чытаць „Ніву", „Czasopis", „Бельскі гостінэць" і іншыя беларускія газеты. На якіх кніжках я вучыўся роднай мовы? Напэўна першыя крокі я ставіў дзякуючы „Ніве", якую мне прывозіў бацька, напэўна — на „Przeglądzie Prawosławnym" („Беларускай старонцы"), напэўна — на кніжках Коласа, Купалы, Быкава, Маўра, Лынькова, Брыля і многіх іншых. Першым часопісам, які я трымаў у сваіх руках, быў Беларускі каляндар з 1989 года. І такія я „metody" раю Крысі „stosować".

**Юрка Буйнюк**

 

# Раз на возе, раз — пад возам



Хачу напісаць, што чуваць у мяне наконт танцаў. Дык вось, у канцы мінулага школьнага года я з танцавальнага клуба „Ціп-топ” перайшла ў клуб „Артэля”. Там я пачала танцаваць з 16-гадовым партнёрам, хаця мне тады было толькі 13 гадоў. Давялося стартаваць у групе шаснаццацігодкаў.

Мой партнёр, як і я, меў клас „D” і вельмі хацеў апынуцца ў класе „C”. Усіх класаў у бальным танцы шэсць: „E”, „D”, „C”, „B”, „A” і „S”. У чэрвені мы выступілі з маім новым партнёрам Артурам Новакам у Ломжы, дзе перамаглі і атрымалі кубак прэзідэнта горада. Адначасова нам прысвоілі там клас „C”. Гэта быў наш першы турнір.

Скажу па шчырасці, здавалася, што свет ляжыць у нас пад нагамі і што ўсё даецца вельмі лёгка, а бацькі ж папярэджвалі, што цяпер то ўжо так лёгка не будзе. У гэтым класе ўжо вунь якія майстры!

Да класа „C” нельга было танцаваць на высокіх абцасах, на сукенках — ніякага бляску, ні каменняў, ні пер’яў. А ў класе „C” усё ўжо можна апрануць. Што хочаш! Можна таксама малявацца.

У верасні мой стары клуб „Ціп-топ” арганізаваў агульнапольскі турнір танца. Мой партнёр нават купіў сабе фрак, якога не мог насіць да класа „C”. Я танцавала яшчэ ў сукенцы без *блыскотак*, але па валасах было пасыпана серабром. А да таго мама выпісала мне туфлі на высокіх абцасах: для стандартных танцаў і для лацінаамерыканскіх.

Мы страшэнна хваляваліся. Як гэта будзе ў класе „C”? Стартавалі толькі ў стандартных танцах. З Варшавы і іншых гарадоў панаязджала шмат танцораў, канкурэнцыя была вялікая. Карацей гаворачы, мы не ўвайшлі ў фінал. Бабуля суцяшала мяне, як умела. Гэта ж ваш першы старт у класе „C”, калі ж яшчэ было развучыць новую праграму! А зрэшты, раз на возе, раз — пад возам. Не важна, што пераможаш ці не. Важна, каб дзейнічаць, нешта рабіць.

Мне стала лягчэй.

**Адрыяна Семянюк**

*Фота А. Ч.*

## Вершы Віктара Шведа

### Паслухмяны з неабходнасці

Бацькі пытаюцца Сцяпана,
Які вярнуўся ўжо са школы:
— Ці быў ты сёння паслухмяны,
Ці не займаўся там крамолай?

— Як жа мог быць балаганным?
Мецъ трэба да мяне спагаду:
Стаяў я ў куце пастаянна,
Быў пад настаўніка наглядам.

### Я і мой тата Ведаем багата

Хвалько Коля
Хваліцца ў школе:
— Я і мой тата
Ведаем багата.

— А дзе, скажы,
Азія ляжыць?
— На гэта гладка
Адкажа мой татка.

# Вячаслаў Багдановіч

Вячаслаў Багдановіч быў кампазітарам, царкоўным і палітычным беларускім дзеячам у II Рэчы Паспалітай. Нарадзіўся ў 1878 годзе на Віцебшчыне. Быў сынам святара Васіля Багдановіча. Вячаслаў таксама рыхтаваўся да святарскага стану і закончыў Кіеўскую духоўную акадэмію. З 1907 года быў інспектарам, а пасля рэктарам Віленскай духоўнай семінарыі. Пасля падзелу Беларусі ў адпаведнасці з рыжскім трактатам пачаў арганізаваць беларускі праваслаўны палітычны рух. Быў адным з заснавальнікаў Беларускага праваслаўнага аб’яднання.

У 1922 годзе Вячаслаў Багдановіч быў выбраны сенатарам польскага парламента і стаў членам Беларускага пасольскага клуба. Выступаў супраць праследавання праваслаўя польскімі ўладамі і незаконнаму аб’яўленню незалежнасці Царквы ў Рэчы Паспалітай ад Маскоўскага патрыярхату. Багдановіч быў членам віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта і настаўнікам у Віленскай беларускай гімназіі.

Вячаслаў Багдановіч быў аўтарам музыкі да некалькіх рамансаў, між іншым „Зоркі Венеры” на словы Максіма Багдановіча.

За дзейнасць на беларускай ніве быў арыштаваны польскімі ўладамі і сасланы ў канцлагер у Картуз-Бярозе. У 1939 годзе вызвалілі яго саветы і зараз жа арыштавалі за беларускі патрыятызм. Далейшы яго лёс невядомы. Праўдападобна загінуў у савецкіх турмах, так як амаль усе беларускія дзеячы, якія апынуліся ў падобнай сітуацыі.

Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага

# Кіт Велярыб

Нішчымніца такі выпхнула паноў у свет, і вось яны збіраюцца ў рыбу. Але такая загвоздка, што з іх ніхто не хоча капаць чарвякоў. Пасля доўгае спрэчкі яны пачынаюць выдумляць абы-што, толькі б не пэцкаць панскія белыя рукі ў зямлі і гнаі.

Пан Заблоцкі са злосцю будзе казаць:

— Ці ж рыба возьме ў губу гэтую брыду? Хіба што маляўка якая. А нам драбяза непатрэбная. Нам бы сома злавіць. Альбо кіта.

— А калі б на тых чарвякоў ды папрыскаць адэкалонам, можа б, і нічога? — нясмела прапаноўвае пан Кубліцкі.

— Трасцы рабай! На шляхетную рыбу інакшая прынада патрэбная. Качка, парсюк, а яшчэ лепей бык. Самае тое, каб прынадзіць кіта.

— А дзе пан возьме такога кручка, каб начапіць на яго цэлага быка? — сумняваецца пан Кубліцкі.

— А навошта яго чапляць? Ён і так прывязаны вяроўкаю да кала. Вунь, каля рэчкі пасецца.

І вось паны выходзяць на бераг рэчкі Парэчкі і пачынаюць галёкаць на ўвесь свет:

— Пане Кіт, га, пане Кіт! Просім сюды!..

За трыдзевяць зямель плавае на моры-акіяне аграмадны Кіт Велярыб. Ён чуе лямант, які справілі паны, заходзіць з мора ў Нёман, з Нёмана — у рэчку Парэчку. Адсопшыся, пытаецца ў паноў:

— Чаго паны раскрычаліся?

— Нехай пан Кіт пакаштуе вунь таго быка, — паважна запрашае пан Кубліцкі. — Вунь пасецца на ўзлобку.

— А мы потым пана Кіта засмажым і з’ямо, — дадае пан Заблоцкі.

Кіт Велярыб выслухоўвае гэтыя прапановы, чорным вокам аглядае паноў і быка, запускае пад воблакі вадзяны струмень і дае адказ:

— Дык ведайце, што я не рыба, а, калі хочаце, звер. За пачастунак дзякуй, але такога мы, кіты, не ямо. Зубы не тыя. Ешце, панове, самі ваша быка. А мне б што-небудзь далікатнае, чарвячка альбо рыбку... вось такенькую...

І Кіт паварочвае назад, да мора.

**Пятро Васючэнка**



*Дзяўчаты з ПШ у Чыжах — удзельнікі беларускіх тэатральных і дэкламатарскіх конкурсаў.* Фота Ганны Кандрацюк

# Польска-беларуская крыжаванка № 43

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ▼ | Winda | Figa | ▶ | | ▼ | | Kasza | Lekarz | |
| ▶ | | | Farsa | Grupa / Irak | | Kij / Mucha | ▶ ▼ | | ▼ |
| | Iks / Fartuszek | Firma / Fin | ▶ ▼ | ▼ | | ▼ | | Oda | |
| | Imię chińskie | ▼ ▶ | | | | | | ▼ | |
| Lira / Mińsk | ▶ ▼ | | | | Chód | ▶ | | | |
| ▶ | | | | | 📖 | | Ar | ▶ | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 39:** Пошта, брама, рака, Ляля, ілюстратар, клін, бэкса, замова, вітка, радар, астра, Сахара. Палоска, шалапут, кава, вілкі, ліст, юнак, матуз, ара, размах, мат, ода, вар, гаргара.



Талон „Зоркі” № 43
25.10.1998



 

# Васількові вечар у восеньскі дзень



Калі 6 кастрычніка Віктар Швед выбіраўся ў Ваяводскі асяродак анімацыі культуры на свой вечар, звязаны з прамоцыяй кніжкі „Вершы Натальцы", то доўга выбіраў сабе кашулю. Хацеў ужо апрануць белую, урачыстую, а тут умяшалася цешча: „Чорную надзень, у цябе ж во бяда якая, жонка толькі са шпіталя вярнулася!" Урэшце, па намове Ґаленкі Марцінкевіч, якая прывезла Валю са шпіталя, а цяпер чакала Віктара, каб завезці яго на вечар, усе згадзіліся, што хай будзе блакітная, бо мусіць быць такая, як васількі, што на вокладцы трымае ў руках Наталька. Ды і Віктар вырашыў, што няма чаго яму смуціцца, калі жонка ўжо, пасля аперацыі, у хаце, а вечар мае быць цудоўны: яго і дачушкі Натальні.

Думку, каб на вечары выступілі дзеці, што вывучаюць беларускую мову ў беластоцкай падставоўцы нумар чатыры, падсунула Валянціна Швед. Вядома, яе ахвотна падхапіла настаўніца Аліна Ваўранюк. А дзецям што за радасць была! „Калі я пачала ім чытаць тыя вершы, — расказвае Аліна Ваўранюк, — дык так яны рагаталі, так цешыліся. Вершы ім падабаліся!"

Дзеці пачалі развучваць вершы са зборніка Віктара Шведа „Вершы Натальцы". Мелі выступіць не толькі вучні з першага „б": Магда Саковіч, Оля Максімюк і Аня Яканюк, ды з другога „ц": Наталька Швед, Магда Карчэўская, Мая Більмін, Эля Юшчук, Караль Заборскі і Міхась Каліна, — усе тыя, што вывучаюць беларускую мову, але і яшчэ трое дзяцей з другога „ц", якія яе не вывучаюць: Ясміна Абу-Гілях (бацька яе — мараканец), Флора Пашко і Міхась Юроўчык, якія на вечары чыталі б вершы паэта па-польску.

З дапамогай настаўніцы Аліне Ваўранюк прыйшоў Сцяпан Копа, вядомы беластоцкі музыкант і музыказнаўца. З Беларускага календара на 1970 год, выдадзенага Беларускім грамадска-культурным таварыствам, выбралі дзве песні на словы Віктара Шведа: „Першакласнікі" і „Звяртаецца рана да мамы малыш", музыку да якіх напісаў Эдуард Гойлік. З апошняга зборніка „Вершы Натальцы" ўзялі адну з „Калыханак" („Спі, засні ты ўжо, Натальна"), а музыку напісала сама Аліна Ваўранюк. Праўда, у тым Беларускім календары было змешчана песень дваццаць на словы Віктара Шведа і іх яшчэ настаўніца хоча выкарыстаць, але сёння хацелася мець нешта свежае, з гэтага зборніка.

У школе была спрыяльная атмасфера. Супольна з дзецьмі, што не хадзілі на ўрокі беларускай мовы, яны ўжо раней наладжвалі вечар калядак, Дзень мамы. Адны чыталі вершы па-беларуску, другія — па-польску. Дырэктар школы нават хваліла іх за добрае супрацоўніцтва. Так што дзецям было не прывыкаць.

Ну, і выйшла! Думаю, што такога вечара яшчэ ў Беластоку не было. Адна імпрэза — для дарослых і дзяцей адначасова! І тая сардэчная атмасфера, тыя ўсмешкі гледачоў, калі дзеці пачалі дэкламаваць „смешныя" вершы пра дачушку паэта, якая была во тут, побач з імі, і сама Наталька таксама дэкламавала вершы пра сябе, тая цеплыня і шчырасць усіх разам — падкупілі кожнага, хто быў у гэты вечар у зале ВААКа.

Трэба сказаць, што ва ўсім тут была відаць спрытная рука арганізатаркі і вядучай вечар Галены Марцінкевіч, на штодзень займаючайся культурай у Ваяводскай управе. Яна напісала сцэнарый вечара, запрашала гасцей. Не было на гэтым вечары ніводнага нецікавага моманта.

Толькі скончылі дэкламаваць і праспявалі свае песні дзеці, як распарадзілася яна наконт супольнага спеву калыханкі, і цэлая зала спявала, бо загадзя былі падрыхтаваны лісткі з тэкстамі песні — па-беларуску або па-польску. І кожны спяваў так, як яму было лягчэй, а Сцяпан Копа падыгрываў на акардэоне, ды Дарафей Фіёнік на гітары.

Дзяўчаты ў даваеннай школьнай форме (з матроскімі каўнерамі) разнасілі гасцям рознае пячэнне ды піражкі з яблыкамі, частавалі кавай і гарбатай.

Як толькі дзеці закончылі сваё выступленне, падключылася „Зорка" ў асобе Ганны Кандрацюк, якая раздала дзецям белыя кашулькі (з аднаго боку былі на іх напісаны вершы Віктара Шведа). Дзеці сядзелі і размалёўвалі іх.

А тым часам публіка не сумуе. Ужо Галенка — уся ў васільковым (як і яе дзве дачушкі) — „экзаменуе" Віктара Шведа, задаючы яму даволі клапатлівыя пытанні. Віктар адказвае дасціпна, з гумарам — і ў зале зноў поўна смеху.

І ўжо спяшае яна з мікрафонам да беларускага консула ў Беластоку Мікалая Крэчкі, дае яму слова.

Ну, а Збышак Насядка абяцаў ёй, што дасць музычны падарунак Шведу і дзецям. І, праўда, цудоўна заспяваў беларускую народную песню „Ой, рэчанька, рэчанька, чаму ж ты няпоўная". Жонка ж у яго — беларуска, дык заспяваў так чыста, быццам бы па-беларуску ўсё жыццё і гаварыў.

Толькі скончылі дзеці размалёўваць кашулькі, як Гандзя Кандрацюк пачала дэманстраваць іх. Прыгожыя! Адну з іх падарыла Натальцы, а пасля задала дзецям заданне дахаты: зрабіць малюнкі паводле вершаў з кніжкі пра Натальку Швед. Малюнкі будуць апублікаваны ў „Зорцы", а лаўрэаты атрымаюць размаляваныя кашулькі.

Было на гэтым вечары ўсяго. Са сцен усміхаліся абразкі з васількамі, намаляваныя Тацянай Місеюк да кніжкі В. Шведа. І ўсё тут было такое васільковае.

Некалькімі днямі пазней Галена Марцінкевіч сказала мне: „Niech pani napisze, że była to lekcja miłości".

Сяброўкі з рэдакцыі дзівіліся: першы раз сустрэлі чалавека з-пад Бранска, які носіць у сабе столькі цяпла да беларусаў.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*



# Сімвал Бацькаўшчыны

Нацыянальная рэліквія беларускага народа — Крыж святой Еўфрасінні Полацкай — прапаў у час II сусветнай вайны. Пошукі гэтага шэдэўра старабеларускага мастацтва, выкананага ў 1161 годзе полацкім майстрам-ювелірам Лазарам Богшам, не далі станоўчага рэзультату. На Першым сходзе беларусаў блізкага замежжа, які праходзіў у Мінску ў снежні 1992 г., дэлегатамі была дадзена прапанова аб аднаўленні вобраза гэтай гістарычнай і духоўнай рэліквіі беларускага народа, а Управа Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" атрымала даручэнне ажыццявіць практычную рэалізацыю прапановы і забяспечыць выкананне працы па ўзнаўленні Еўфрасіннеўскага Крыжа.

Працы па рэстаўрацыі Крыжа цягнуліся чатыры гады, а заказ на аднаўленне рэліквіі ЗБС „Бацькаўшчына" даверыла берасцейскаму майстру-ювеліру Міколу Кузьмічу, аднаму з вельмі нешматлікіх у Беларусі мастакоў, якія прафесійна займаліся эмаллю (у арыгінальным Крыжы адзінаццаць залатых пласцін былі аздоблены каляровымі эмалямі з выявамі святых). Паралельна з аднаўленнем рэліквіі „Бацькаўшчына" вырашыла падрыхтаваць да друку (паралельна на беларускай і рускай мовах) навукова-папулярную кнігу і з гэтай прапановай звярнулася да пісьменніка Уладзіміра Арлова.

Урачыстасць перадачы святыні Беларускай праваслаўнай царкве адбылася ў верасні 1997 г., а ўлетку 1998 года ў мінскім выдавецтве „Асар" выйшла друкам кніга „Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны"*. Першы яе раздзел прысвечаны святой Еўфрасінні і яе мошчам, у другім — апісаны сам Крыж майстра Богшы і ягоная адысея. У ранейшых публікацыях і энцыклапедычных даведніках знікненне Крыжа тлумачылася адназначна: „вывезены нямецка-фашысцкімі захопнікамі". У гэтай кнізе прыводзяцца розныя меркаванні на гэты конт, між іншым разглядаецца і расійскі след. Напрыклад, паводле супрацоўніка КДБ Сяргея Багдановіча, магла яго вывезці ў глыб Расіі група капітана Віктара Пудзіна, якая ў пачатку ліпеня 1941 г. прыбыла з Масквы ў Магілёў з „асобым даручэннем". Гэтае меркаванне падтрымаў таксама 75-гадовы жахар Магілёва Пётр Паддубскі, які вывозіў на сваёй машыне музейныя каштоўнасці разам з Крыжам святой Еўфрасінні на ўсход. Да гэтай пары пошукі ў музейных фондах Расіі аказаліся беспаспяховымі і наўрад ці дадуць яны станоўчы вынік пасля таго, калі ў 1997 г. Дзяржаўная дума Расіі падрыхтавала Закон аб рэстытуцыях, паводле якога ўсе культурныя каштоўнасці, якія цяпер знаходзяцца на тэрыторыі Федэрацыі, з'яўляюцца яе ўласнасцю і вяртанню іншым краінам не падлягаюць. Пошукам не спрыяе таксама невыпрацаваная Беларуссю дзяржаўная палітыка адносінаў да ўласнай спадчыны, якая часта падмяняецца лозунгамі аб „славянскім адзінстве".

У трэцім раздзеле даецца апісанне адраджэння святыні — ад першых захадаў па ўзнаўленні Крыжа ў пачатку дзевяностых гадоў да вяртання рэліквіі ў Полацк — на радзіму св. Еўфрасінні — 27 верасня 1997 г. У выданні змешчаны яшчэ дакументы ЗБС, якія тычацца аднаўлення Крыжа, жыццяпіс св. Еўфрасінні, малітвы да святой, Крыжа і за беларускі народ, а таксама спіс асноўных крыніц і літаратуры.

**Віталь Луба**

* *Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны. Гісторыя Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай.* Аўтар-укладальнік Уладзімір Арлоў, Мінск 1998, сс. 328.

# Візіт Усяленскага Патрыярха



*Усяленскі Патрыярх Варфаламей I у Саборы Марыі Магдаліны ў Варшаве.*
Фота Яраслава ХАРКЕВІЧА

[**1** ☞ *працяг*]
звонку з'яўляецца вернаю, хаця паменшанаю, копіяй пабудаванай у 532—537 гг. пры імператары Юсцініяне I канстанцінопальскай царквы Мудрасці Божай, якую пазней туркі перабудавалі на мячэць каб сёння стала музеем, усярэдзіне выглядае грацыёзна, хаця яшчэ не даведзены да канца аснашчэнне і распіска сцен.

У другой палове дня Яго Свяцейства наведаў Супрасльскі манастыр, а вечарам паклаў краевугольны камень пад пабудову Свята-Юр'евай царквы на беластоцкім Новым Месце. Пасля гэтага ўрачыстага акта Усяленскі Патрыярх адбыў з Беласточчыны ў Варшаву і наступнага дня закончыў свой візіт у нашай Царкве.

Усяленскага Патрыярха ў Ягоным паломніцтве па нашай краіне суправаджаў мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава, а таксама грэчаскія і нашы архіпастыры.

* * *

Графік візіту Усяленскага Патрыярха па Беласточчыне быў надта перагружаны, знясільваючы, таму на парадку дня былі вялікія спазненні ў яго выкананні, асабліва вечарамі. І так: у першы дзень, у Сямятычы Высокі Госць прыбыў з амаль гадзінным спазненнем пасля цяжкога аб'езду Лодзінска-Пазнаньскай епархіі напярэдадні. Спазненне на Грабарку было зменшана да паўгадзіны; прыблізнае атрымалася і ў Гайнаўку. Затое ж неўзабаве ў Беластоку вырасла яно аж да паўтары гадзіны! Уладыка Сава перапрасіў беластачан за гэта і падзякаваў за вытрымку. Таксама і на другі дзень перад царквою Мудрасці Божай вернікі чакалі свайго Першаіерарха на прыблізна паўгадзіны больш, а ўжо вечарам перад Свята-Юр'евым храмам — на гадзіну і чвэрць.

Згадваючы пра акт высвячэння храма Агія Сафія цяжка стрымацца ад заўвагі, што вернікі былі толькі пасіўнымі сузіральнікамі ўрачыстасці. Справа ў тым, што малебен адпраўлялі Патрыярх і суправаджаючыя Яго грэчаскія архіпастыры; вядома — на грэчаскай мове. А наш люд глядзеў на ўсё гэта *jak na tureckim kazaniu*. Думаю, што варта б было пазнаёміць нашых вернікаў з асноўнымі словазваротамі праваслаўнай літургіі на грэчаскай мове, тым больш, што трэба спадзявацца далейшага пашырэння кантактаў нашай Царквы з грэчаскаю, мяркуючы хаця б па ходзе і палітычных працэсаў. Нямнога дзеля гэтага трэба: некалькі слоў пропаведзі, лістоўка ў царкоўным прылаўку ці адзін урок катэхізісу ў школе.

А калі ўжо пра мову мова: пропаведзі Усяленскага Патрыярха перакладаліся на зразумелую пастве мову: на Грабарцы была яна руская, а ў Беластоку і Гайнаўцы — польская. Чаму ў Беластоку польская — няма, думаю, патрэбы тлумачыць. А вось пасля рускай на Грабарцы, пачуўшы польскую мову ў Гайнаўцы адчуў я выразны дысананс. У Беластоку польская мова ў Саборы — для пазацаркоўнага афіцыёзу, бо ён тут такі, што другіх не ведае. Затое ж гайнаўскі павінен ведаць. Прысутны ў Гайнаўцы драгічынскі біскуп Дыдыч родам з прыбужанскіх Сэрпеліц. А і мэр Гайнаўкі, спадарыня Ядвіга Рудзінска-Патэюк, як мне вядома з тэкстаў яе выбарчых іміджмэкераў дзевяцігадовай даўнасці, ахвяравалася заснаваць сям'ю з беларусам, тады і ёй, як філолагу па прафесіі, мова мясцовых абарыгенаў не павінна быць чужою. Таму і заскраблі мяне кошкі, калі ў Гайнаўцы пропаведзь Праваслаўнага Пешаіерарха прагучала на мове, на якой тут стагоддзямі вялося выцясняне праваслаўя. А Усяленскі Патрыярх менавіта ў Гайнаўцы гаварыў пра трыванне ў сваёй веры. А тут такое *а kuku*! Як ні глядзець — *tradycyjna polska gościnność...*

Візіт Усяленскага Патрыярха Варфаламея I, архіепіскапа Канстанцінопальскага, у нашу Царкву быў, нягледзячы на прыведзеныя хібы, вялікаю падзеяй у жыцці праваслаўных Беласточчыны і мяркуючы па вялікім іх зацікаўленні паспрыяў мацаванню іх рэлігійнасці. У сённяшнім, навальна перагружаным жыцці кантакт з *Sacrum* становіцца асноўным компасам нашага жыцця. А і сам наш Першаіерарх, нават самою сціплаю знешнасцю і асабліва мяккім голасам, несумненна спрыяе асведамленню чалавечага месца ў Вечнасці і Прасторы. І хочацца выказаць жаданне скорага Яго паўторнага візіту на нашу зямлю.

**Аляксандр Вярбіцкі**



*Усяленскі Патрыярх уваходзіць на Святую Гару Грабарку.*
Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



*Перад царквою Мудрасці Божай.* Фота Яраслава ХАРКЕВІЧА

# Долі і нядолі мясцовай прэсы

Калісьці думалася мне, як добра было б, каб кожная гміна, кожны горад мелі сваю газету. Можна было б падрабязна дакументаваць жыццё мясцовых грамадскасцей, заглядаць у іх гісторыю, апісваць традыцыі, звычаі, адчыняць дарогу на шырэйшыя воды маладым літаратарам, знаёміць з людзьмі, якія сваёй працай упльываюць на развіццё мясцовасцей, у якіх жывуць і г.д. І вось мае мары споўніліся. Перамены злому васьмідзесятых і дзевяностых гадоў адчынілі дарогу ўзнікненню мясцовай прэсы. На жаль, з цягам гадоў мой энтузіязм для гэтый справы прыгас. Мне стала ясна, што газеты якія наогул фінансуюцца самаўрадамі, хутка становяцца прапагандысцкімі рупарамі тых жа самаўрадаў. А калі яшчэ газету рэдагуе чалавек, які не мае да гэтага ніякіх схільнасцей, тады толькі сядай і плач! Грошы, прызначаны на выдаванне самаўрадавак лічу пераважна патрачанымі.

Гмінныя г.зв. незалежныя газеты таксама маюць свой дрэнны бок — пераважна замнога месца адводзяць крытыцы самаўрадаў, занядбоўваючы іншыя справы. Яны таксама пераважна маюць кароткае жыццё, хіба што іхні спонсар надта багаты.

Усё вышэйнапісанае абапіраю на прыкладзе газет, якія выпускаюцца ў Белавежы і Гайнаўцы.

У Белавежы, амаль у той самы час, пачалі выходзіць дзве газеты: прыватны „Białowieżanin" і самаўрадавы „Głos Białowieży". Другая газета даўжэйшы час не надавалася для чытання. Нават самаўрад хваліць не ўмела. Марэк Крыда, які апрацоўваў паасобныя нумары, зусім не адчуваў, што такое газета. На яе фоне „Białowieżanin" Анджэя Антчака выразна вылучаўся і зместам, і формай. Ну, і дапякаў мясцовым уладам. Але з цягам часу газета „выпшытакалася" і перастала выходзіць. Мясцовы самаўрад уздыхнуў з палёгкай.

Тым часам „Głos Białowieży" ўзяў пад сваё „крылы" Лех Навацкі, новы дырэктар Белавежскага асяродка культуры. Газета стала цікавай, чытабельнай. Вакол яе згуртавалася шмат добрых аўтараў. Жыхары Белавежы з нецярплівасцю чакалі выхаду свежага нумара. Але працягвалася гэта нядоўга. Згубіла „Głos" штораз большая крытыка самаўрада, якая ў пачатку гэтага года дасягнула зеніту. Самаўрад расправіўся з Л. Навацкім вельмі проста — не прадоўжыў яму дамовы на працу як дырэктару асяродка культуры і той стаўся прыватнай асобай. Абавязак выдаваць газету зваліўся на плечы намесніка дырэктара, які не скрывае, што не бачыць сябе ў гэтай ролі. Газета зноў нагадвае кволыя пачаткі. У апошнім, вераснёўскім нумары, адны падзякі — аж млосна ад гэтага робіцца.

Падобная сітуацыя і ў Гайнаўцы. Тэрэса Валкавыцкая пад канец 1993 г. пачала выдаваць прыватную газету „Gościniec". Але хутка выявілася, што гэта ёй не пад сілу па фінансавых прычынах. Коратка таксама праіснаваў салідарніцкі „Gościniec Hajnowski", які, перш за ўсё, дапякаў „камуне". Праз нейкі час ізноў пачаў выходзіць „Gościniec", на гэты раз фінансаваны самаўрадам. Яго рэдактарам назначана была Тэрэса Валкавыцкая. Трэба згадзіцца, што нягледзячы на абмежаванні патрапіла яна рабіць часопіс, які можна было чытаць. З канцом 1995 г. „Gościniec" перастаў выходзіць. У палове 1996 г. у яго месца паявілася „Gazeta Hajnowska", якую ўзначаліў Янка Целушэцкі. На мой погляд рэдактар Целушэцкі замнога месца адводзіў дробязям, пры гэтым пазбягаў найменшай нават крытыкі. Пры такім падыходзе цяжка было прыцягнуць чытача. На жаль, чытачоў газеце не прыдбала замена Янкі Целушэцкага Тадэўшам Тапольскім, які стаў рэдактарам „Gazety Hajnowskiej" з сакавіка г.г. Хутка выявілася, што Т. Тапольскі не мае ніякіх схільнасцей у рэдактарскім напрамку. Старонкі часопіса запаўняе м.інш. матэрыямі з прэсавага сервізу Федэрацыі спажыўцоў ці парадамі для ўласнікаў агародчыкаў, пазбягаючы адначасова шырэйшага асвятлення важных і актуальных спраў, якімі жыве горад. Адзінымі вартаснымі матэрыяламі ў гэтай газеце лічу гістарычныя нарысы Алы Грыц.

Нечакана, у палове г.г. паявілася канкурэнцыя для „Gazety Hajnowskiej" у выглядзе... „Gościńca". Як можна дадумацца, яго выдаванне ўзяла на свае плечы Тэрэса Валкавыцкая. На гэты раз „Gościniec" з'яўляецца бюлетэнем гайнаўскіх работадаўцаў, якіх згуртаванне узначальвае Т. Валкавыцкая. Трэба сказаць, што газета ўжо з першага нумара зрабіла ў Гайнаўцы фурор. Яна адкрывае тайны цяперашніх гайнаўскіх улад. Аб некаторых справах жыхары горада нават не дадумваліся. Перад Валкавыцкай, здаецца, нічога не скрыецца. Гэта добра! Думаю толькі, што ў будучыні бюлетэнь павінен заняцца таксама менш сенсацыйнымі справамі, не менш важнымі для горада. Прынамсі для эмацыянальнай раўнавагі. Амбіцыяй Т. Валкавыцкай ёсць пераўтвараць свой часопіс у павятовую газету. Але і яна ў сваю чаргу сутыкнецца з канкурэнцыяй. З такой жа самай думкай носіцца Лех Навацкі.

Найбліжэйшы час на прэсавым белавежска-гайнаўскім рынку ўсё ж прадказваецца абяцаючым. Пажывём, пабачым, чым усё гэта закончыцца. **Пётр БАЙКО**

# Пан быў добры чалавек

**Успаміны Эдварда ШЧАСНОВІЧА пра музыканта, кампазітара і педагога Яна ТАРАСЕВІЧА.**

Я можа чаго не раскажу, бо ўжо пазабываўся гэта...

З Янам Тарасевічам пазнаёміўся я ў 1932 годзе. Мне было дваццаць гадоў. Мой бацька кепскі быў, так што я мусіў пакінуць хату і пайсці ў свет пашукаць сабе работы. І пайшоў.

Заходжу ў Саколку да жыда Фамы Катранскага, у якога я быў на службе, як меў 13 гадоў. Заходжу, а ён мне кажа: *Ты ўжо мне непатрэбны, бо зіма. Але я дам табе другога пана. Зараз прыедзе аканом Тарасевіча і ты паедзеш у маёнтак.*

Якраз былі праваслаўныя святы. Як заехаў, добра мяне накармілі. Паніч жыў у маёнтку на месцы свайго дзядзькі, у Шындзелі (там і вёсачка ёсць, што Шындзель называецца). Расказваў пан, што і ў маладым веку жыў у дзядзькі гэтага. Як ён стаў гаспадаром, я не цікавіўся. Чуў толькі ад пана, як у дзіцячыя яго гады ў маёнтку здарылася трагедыя: аднаму парабку, які нёс мяшок збожжа, кныр абгрыз лыткі. Тады не плацілі ніякіх *складак на убэспячэнне*. Той парабак судзіўся з панічавым дзядзькам і яму заплацілі за калецтва. Я памятаю таго парабка, бо ён пасля жабраваў у Саколцы — хадзіў толькі на руках, а замест ног меў драўляную падстаўку...

Маёнтак Шындзель у гадах маёй службы (1932-1934) выглядаў так: драўляная хата з дзвюх палавін — у адной часці жыла служба і парабкі, у другой паніч, яго *ўпраўляюшчы* (аканом) Лёня Лявіцкі, гаспадыня. У адным пакоі стаяў толькі раяль. Як прыязджалі да паніча вучні, ён іх вучыў у тым пакоі. Іншыя будынкі таксама драўляныя былі, стадолка няважная, хлеў драўляны.

Лёня Лявіцкі быў у майго пана з маладых гадоў. Тарасевіч узяў яго на выхаванне і прывучыў да працы аканома. А пасля вайны Лявіцкі ажаніўся з маладой служанкай з маёнтка. У пана была яшчэ і другая служанка, старая, яна называлася Вераніка Матылевіч і паходзіла з нашых старон, з Кнышэвіч. Пасля вайны пан купіў Лявіцкаму пляц і дапамог пабудаваць хату. Лявіцкі адчыніў краму і добра таргаваў. А Тарасевіч затрымаўся ў Беластоку. Я да яго заязджаў. Ён на кватэры жыў у Лёнціка Альзаровіча, таксама з нашых старон, з Бабікаў. І ў Беластоку паніча называлі ўжо *пан прафесар*. Да яго на кватэру прыходзілі вучні. Тарасевіч ніякай сям'і не меў.

* * *

Як выглядала мая служба ў маёнтку? Раніцай я вёз малако ў Саколку да адной жыдоўкі, а яна разносіла па сваіх знаёмых і так зарабляла. Тарасевіч меў 5 ці 6 кароў. Жыў пераважна з таго, што лес меў, ды прадаваў збожжа. Кожны дзень вазіў я па дваццаць літраў малака. Зімой пілавалі лес, вазілі і рубалі, каб дровы за лета пасохлі, а зімой добра гарэлі. Я вазіў дровы таксама ў Саколку на продаж. І так былі ў пана грошы. І ўсё куплялі. У яго запасаў не было. Свіней увогуле не гадаваў. Кожны раз, калі я вёз у Саколку малако, дровы, пан пісаў картачку — купі тое і тое: мяса, хлеба, саланіны. Хлеб таксама куплялі, не пяклі свайго. Я яшчэ касіў і сушыў сена, а пазней вазіў яго ў стог. Выпраўляў мяне пан на ўсякія пасылкі. Часта ездзіў я з панам у Саколку пад вечар. А ў Саколцы жыў пан Паўлоўскі, меў ён млын, электрастанцыю і кіно. Заедзем на пляц да пана Паўлоўскага, я выпрагу каня, мой пан завядзе мяне ў кіно, купіць білет і я сяджу, аглядаю фільм. Гэта я вельмі любіў, умеў чытаць і без цяжкасці разумеў нямыя фільмы. Калі канчаўся сеанс, я клаўся на возе і спаў, покуль пан прыйдзе. І тады ехалі дахаты. І калі едзем, пан усю дарогу гаворыць. Быў вучоны, музычную школу меў. Многа ў маю галаву ўбіваў асветы. Не быў ганаровы. Са мною размаўляў як з родным. Едзем, а ён пачынае гаварыць, то я — быццам кніжку чытаю. Гаварыў усяляк: чыста па-руску, па-польску, па-просту.

* * *

Цяпер раскажу, як я ў пана руку скалечыў. Было гэта 9 снежня 1933 года. Раней я даведаўся, што пайду служыць у войска, прызначылі мяне ў 76 полк пяхоты ў Гродна. І вось, раніцай, 9 снежня, аканом разбудзіў нас, г.зн. парабка, пастуха і мяне ды сказаў парабку запрагаць коней у манеж. Пасля будзем малаціць малатарняй, якую звалі „тарганка". У манежы было двое коней. Малацілі ячмень. Парабак і пастух кідалі снапы, а я падаваў у малацілку. Коні і манеж знаходзіліся за сцяною ў адрыне, на таку іх не было відаць. Коней паганяў Лявіцкі. Малоцім, а я цэлы час думаю: *Як гэта мне будзе ў тым войску? Маю ў пана крыху заробленых грошай, але ў яго ўсё з грашыма скупа...*

Ужо канчалі малаціць. Парабак пазбіраў раструшаны ячмень і падаў. А я як піхнуў тое смецце рукою! У адну секунду рука трапіла ў цапы і затармазіла малацілку. Коні сталі. Лявіцкі крычыць: *Як ты падаеш?* А я енчу: *Ратунку, рука ў малацілцы!* Прыбег Лявіцкі і ўсе хапілі за кола, давай яго адкручваць. Гляну я на сваю руку, бачу: косці наверсе, жылы бялеюць. Разбудзілі хутка пана. Ён акруціў мне руку прасцінаю, абвязаў і пакуль тое рабіў, ужо конь стаяў гатовы, запрэжаны. І пан з Лявіцкім павезлі мяне ў шпіталь у Саколку. А такі быў перапалоханы, што нават кроў мне не цякла. Калі даехалі да Багушаў (гэта 3 кіламетры ад маёнтка), я пачуў, як кроў сцякае па кульшах. Завезлі мяне ў шпіталь, раздзелі, палажылі, перавязалі руку гумаю. Лекара не было, з'явіўся вечарам. Паглядзеў на маю руку і сказаў, што трэба яе адрэзаць. А пан кажа: „Не. Давайце будзем ратаваць руку чалавеку!" Пан, сам як лекар, усё ведаў. То той доктар стаў адводзіць пана, навошта, кажа, за парабка, на кошты сябе наводзіць? А як шкадуе пан так свайго парабка, то вязі яго ў Гродна, там лечыць вайсковы лекар, можа ён возьмецца лячыць гэту руку.

Пан загадаў мяне апрануць. Больш я не памятаю, бо самлеў. Завезлі мяне на станцыю, палажылі ў вагон і пан павёз мяне ў Гродна, а Лявіцкі канём вярнуўся ў маёнтак (абодва былі цэлы дзень каля мяне). Ноччу заехалі мы ў Гродна, пан узяў дарожку і найперш заехаў да свайго дзядзькі. Панічаў дзядзька таксама быў лекарам, ведаў хто найлепш мог бы мною заняцца. Разам завезлі мяне ў шпіталь і чакалі доктара Сляшынскага. Той з'явіўся пасля некалькіх гадзін, развінуў руку і сказаў: *Будзем лячыць*. Колькі ўцярпеў я болю, то не апісаць. Толькі бедаваў: як я, калека, буду жыць, каму я спатрэблюся? Хто мяне *тэраз* захоча трымаць? А найгорш, што прыйдзецца вярнуцца да бацькі. Хоць ты ў зямлю лезь!

На другі дзень прыехаў да мяне пан (ён начаваў у свайго дзядзькі). Прынёс мне цукеркаў, вінаграду, бананаў, аловак, сшытак, канверты, маркі, усялякае. І сказаў: „Ляжы і здаравей. А як што трэба, пішы, я прыеду". І паехаў. А я здаравеў. Праз нейкі час жылы, якія былі наверсе, перагнілі, рана пачала загойвацца. Пасля двух тыдняў я падняўся з ложка. Напісаў ліст бацьку, што скалечыў руку, але хай не хвалюецца, усё будзе добра. У святы Божага Нараджэння прыехаў бацька. Паглядзеў на мяне і сказаў: *Ляжы ў шпіталі, пакуль рука не загоіцца. А пан будзе мусіў усё сам сплаціць. За тое, што ты ў яго скалечыўся*. Пачаў крычаць на мяне, што астануся калекай. Людзі, якія ляжалі разам пытаюцца: *— Гэта вы яго бацька? — Ага, бацька!* А яны кажуць: *Не, вы не бацька. Гэта той пан яго бацька. Паглядзіце на яго шафку: што яму той пан прывёз! А вы, што прывезлі? Лаянку? Гэта ж дзісь свята. А вы з голымі рукамі прыехалі!*

Бацька развітаўся. Не запытаў мяне, ці што трэба. І паехаў. Пасля месяца я выйшаў са шпіталя. Пан прыехаў па мяне, забраў. Пасля вазіў у Саколку на перавязку. Звольнілі мяне з войска, бо на лекарскай камісіі прызналі мне 60 прац. патраты здароўя. А пан мне сказаў, што я буду атрымоўваць пенсію. Я не паверыў! (Пан раней не гаварыў нам, што аплачвае за нас узносы, бо ў адным маёнтку парабак спецыяльна скалечыўся, каб браць рэнту).

Калі бацька даведаўся, што я дастану рэнту і грошы за выпадак, забраў мяне дахаты. Перад тым я пагаварыў з панам, а ён кажа: *Як хочаш. І ў мяне можаш служыць. Што будзеш мог, тое будзеш рабіць. А фурманам — то напэўна: будзеш вазіць мяне і малако ў Саколку*. Але бацька не адставаў. Будзь у хаце, казаў, заложым краму і будзе нам добра жылося з тваё рэнты. Але я дурны быў, што бацьку паслухаў. Усю маю рэнту ён на свае даўгі паадаваў.

* * *

Пан быў бландзінам, валасы часаў угару, такі *ежык* быў. Сярэдняга росту, грубаваты, твар круглы. Нармальны сабе такі чалавек, не за *ценкі*, такі мажлівы.

Прыязджала да яго пані з дзяўчынкай Таняй і казала сваёй дачушцы „то твой татусь". А як пан спыніўся ў Беластоку, я часам наведваў яго. Часам начаваў. Добры быў чалавек. Потым ад людзей я даведаўся, што яго няма, што памёр на сэрца седзячы, ці што?

**Запісала Ганна КАНДРАЦЮК,**
*Шчасновічы, жнівень 1994 г.*

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 26**

Апошняя публіцыстычная звестка пра ўсходнюю Беласточчыну на старонках „Нашай ніве" за 1909 год паявілася ў сорак пятым нумары тыднёвіка. Датычыла яна Васількава, а яе аўтарам быў ужо вядомы нам Тарас Бульба. Як і ўсе папярэднія допісы гэтага аўтара так і апошняя інфармацыя датычыла адмоўных з'яў у жыцці гэтага невялікага мястэчка з беларуска-польскага этнічнага пагранічча. Аўтар крануў тут дзве справы: неэтычнага захавання мясцовай моладзі і клопатаў з палітычнымі перасяленцамі:

„Мястэчка Васількаў, Гродзенскай губерні, Сакольскага павета. У нашым мястэчку цяпер боязна хадзіць не толькі ўначы але і ўдзень, бо ходзяць хэўры хлопцаў, што маюць гэтай восенню станавіцца на прызыў. Робяць яны розныя скандалы — мусіць хочуць паказаць свой розум. Людзі кажуць, што гэта з вялікага смутку, але здаецца, што чалавек у смутку саўсім іначай вядзецца. Толькі пустыя людзі выказваюць яго бойкамі, ды бруднымі песнямі. Гэтымі часамі ў Васількаў прыслалі 20 палітычных пасяленцаў, каторыя не могуць папасці ні якой работы і галодныя туляюцца па вуліцах, бо з казны помачы ім не даюць саўсім. Яны кажуць, што ў Сібіры было лепей жыць, бо ад казны давалі па 5 рублёў у месяц".

Гэтай карэспандэнцыяй аднак не вычэрпваецца ўсходнебеластоцкая тэматыка на старонках „Нашай нівы". Справа ў тым, што тыднёвік апублікаваў таксама некалькі вершаў аўтарства жыхароў Гарадка і яго ваколіцаў. Сказанае датычыць перад усім Сцяпана Пятэльскага, які ў друку выступаў пад псеўданімам М. Арол. Жыў ён у 1890-1918 гадах. Пісаў вершы, збіраў фальклор, займаўся таксама публіцыстыкай. Яго дзяцінства прайшло ў Гарадку, дзе вучыўся ў прыхадской школе. Закончыў царкоўнанастаўніцкае вучылішча ў Ялоўцы. Пасля працаваў настаўнікам у Парэчы на Гродзеншчыне. У 1913-1914 гадах жыў на Ковеншчыне, дзе быў мабілізаваны ў царскую армію. Прымаў удзел у баях. За баявыя заслугі быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам. У 1917 годзе знаходзіўся са сваім палком на Украіне, дзе захварэў тыфам і памёр у канцы 1917 або на пачатку 1918 года. Як паэт Пятэльскі-Арол супрацоўнічаў з „Нашай нівай", пачынаючы ад 1908 года. Змяшчаў свае творы таксама ў „Беларускім календары" і ў „Лучынцы". Падрыхтаваў зборнік вершаў „Лірнік", аднак першая сусветная вайна перашкодзіла ў яго выданні. Толькі на пачатку дзевяностых гадоў у Мінску была апублікавана кніга яго вершаў пад тым жа загалоўкам.

Першы твор Пятэльскага паявіўся ў 21 нумары „Нашай нівы" за 1909 год. Верш пад загалоўкам „Песня" выразна адклікаўся да фальклорнай традыцыі:

Сядзіць голуб на бярозі.
Галубка на вішні.
— „Скажы, скажы, маё сэрца,
Што маеш на мыслі?
Як не хочэш маё сэрца,
Дружынаю быці,
То дай жэ мне таго зелля,
Каб цябе забыці!"
— „Расце тое ў мяне зелле
Блізка пералазу;
Як дам табе напіціся,
Забудзеш адразу!"
— „Ой піць буду, хоць праз сілу
І дзянькі, і ночы!
Толькі цябе я забуду,
Як загаснуць вочы".

**М. Арол**, *м. Гарадок, Гродн. губ.*

Другі верш, ізноў пад загалоўкам „Песня", змясціў Пятэльскі-Арол у 43 нумары „Нашай нівы" за 1909 год. Вось яго змест:

Ой вы птушкі, паляціце
У роднае поле.
Раскажыце маёй мілай
Аб маёй нядолі.
На чужыне я змарнеўся
Як травіца ў полі.
Я жыву і жыць не міла
Без цябе і долі.
Ў чыстым полі вецер свішча,
Круціцца і вее.
А сэрцэйка маё нудзіць,
Па Марысі млее.
Вось як крыкну моцна ветру,
Што шуміць па свеце,
Няхай нясе мілай тое,
Што ляжыць на сэрцы.
Але вецер непаслушны
Носіцца на волі.
А я сохну паміраю
З сардэчнага болю.

**М. Арол**, *м. Гарадок, Гродн. губ.*

Як бачым, абодва вершы належалі да лірыкі кахання і прадстаўляюць сабой нядрэнны мастацкі ўзровень.

**Алесь БАРСКІ**

# Самародны музыка



Пятро Юшкевіч вельмі любіць музыку. На скрыпцы — ігралі яго бацька і брат, яны ахвотна выконвалі беларускія і рускія мелодыі.

П. Юшкевіч жыве ў вёсцы Збуч (Чыжоўская гміна). Кожны чацвер едзіць ён у Гайнаўскі дом культуры ды іграе ў капэле калектыву беларускай песні ГДК.

Калі быў яшчэ хлапчуком, колькі ж разоў пільна прыслухоўваўся ігры музыкантаў на вясковых патанцоўках. Захапляўся музыкай. Слухаў бы яе і слухаў. Увесь ператвараўся ў слых. Быў вельмі ж уражлівы на музыку. Меў пачуццё рытму і добрую музычную памяць (мог дакладна зайграць толькі што пачутыя мелодыі).

І зараз паглынае яго інструментальная музыка (скрыпка, гітара, мандаліна). Асабліва любіць іграць на скрыпцы, захапляе яго яе гук. Ды вось у яго правай руцэ, быццам дырыжорская палачка, узлятае смычок. Узмахнуў смычком — і здаецца, чуецца шэлест травы, бурленне раўчука, шчэбет птушак. Дакранаючыся да струн, Пятро дае жыццё чароўным гукам. Выконвае мелодыі ў розным тэмпе, з розным настроем — то бадзёрыя, то пяшчотныя, то сумныя.

Сёння Пятро Юшкевіч ганарыцца тым, што выступае з хорам ГДК, які існуе звыш шаснаццаці гадоў. З нагоды 15-годдзя калектыву збучанскага музыку ўзнагародзілі адзнакай „Заслужаны дзеяч культуры”.

**(гай)**

# Культурны бар

Такіх піўных бараў, як у Чаромсе па вуліцы Дзібуа, са свечкай трэба пашукаць у наваколлі. Хто не верыць, няхай прыедзе ў піўную Багдана Ульяноўскага і сам у гэтым пераканаецца.

Спадар Ульяноўскі арганізаваў сваю гандлёвую ўстанову ў пачатках рыначнай эканомікі. Тут упершыню пачалося прадавацца ў пасёлку разлўное піва. І гэта не абы-якое. Духмянае і чыстае, як слязінка, без лішніх „прыбавак”. Ды і цана была даволі даступная. Таму кожны дзень пакупнікоў было хоць адбаўляй.

Неаднойчы і я тут пабываў. Спадабаліся мне чысціня і парадак, ветлівая абслуга. А самае асноўнае, чалавек не аглядае ап'янелых гарлатых асобеняў, якія безупынна перакідваюцца матам. Прычына зусім простая: бармен прытрымоўваецца закона і асобам у нецвярозым відзе піва не прадае. А калі нейкі асобень паспрабуе „паспрачацца” з барменам у той справе, гэты далікатна намякне: „Табе, прыяцель, на сёння хопіць!..”

Вось што я пачуў нядаўна ад наведвальніка бара:

— Мне найбольш падабаецца тое, што тут спакойна выпіць піва, не чакаючы, што нейкі асобень вылье на цябе кубак гэтага напітку. Не чуваць бульварнага гоману, бушуючых падлеткаў.

Нядаўна быў я сведкам такога здарэння. Аматар піва выйшаўшы з бара пачаў каля агароджы „афармляць” сваю „патрэбу”. Убачыў гэта праз акно Багдан Ульяноўскі, ды так яго „аформіў”, што пэўна ён дзесятаму закажа, каб гэтага не рабіў у гэтым месцы.

Такіх купцоў і піўных патрэба нашаму грамадству больш. Культура і парадак перад усім, а не гонка за прыбыткам. Неадноўчы прыглядаюся да наведвальнікаў і аматараў піўца ў прылеглых да чыгуначнай чаромхаўскай станцыі бары і краме „Plus”. Якія ж адменныя і жудасныя вобразы можна там пабачыць! Лепш не расказваць! Бачаць гэта адказныя за парадак і продаж піва дзяржаўныя чыноўнікі. І ўсе маўчаць. А чаму ж, для прыкладу, не паказаць публічна бара Багдана Ульяноўскага і паспрабаваць сказаць уласнікам гэтых гандлёвых устаноў: «Хопіць балагану. Час змяніць напрамак сваёй „гандлёвай” дзейнасці!»

**Уладзімір Сідарук**

# А тэлефон маўчыць

Лётаюць людзі ў Космас, думаюць пасяліцца на Месяцы, быццам бы для іх месца на Зямлі мала. А ўсё гэта дзеецца дзякуючы тэхнічнаму прагрэсу. Але сучасная тэхніка не ўсюды ўкаранілася. Напрыклад, у мяне яшчэ тэлефон з ручкай, а сам апарат памятае першую сусветную вайну. Але не ў тым справа. Добра, што ёсць хоць адзін тэлефон на вёску, дзякуючы якому можна спалучыцца са светам. Найгоршая справа ў тым, што калі ідзе дождж або снег, мой дапатопны тэлефон маўчыць! Да маёй вёскі Бялкі, што ў гміне Нарва, тэлефонная лінія праходзіць праз лес і калі пойдзе дождж або снег, галлё дрэў апускаецца на драты і тады тэлефон моўкне. Да бліжэйшага тэлефона трэба ісці чатыры кіламетры, на пошту ў Трасцянку.

Цяпер Тэлекамунікацыя ў Гайнаўцы ставіць у нас аўтаматычную тэлефонную станцыю. Гавораць, што будзе намнога лягчэй спалучыцца са светам. Але што з таго, калі няма каму зрабіць парадак каля тэлефонных правадоў. Цяпер, калі ручную тэлефонную станцыю абслугоўвае яшчэ пошта ў Трасцянцы, то начальнік пошты Ніна Васілюк прымае інфармацыю пра глухі тэлефон і перамазвае ў Тэлекамунікацыю ў Гайнаўцы. Тыя пакуль прыедуць, галлё абсохне і зноў можна званіць.

Як будзе далей — цяжка сказаць. Аднак калі не зробяць парадку з тэлефонай лініяй у лесе, напэўна будзе горш.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер — не вер

Даражэнькі Астроне! Як прачнулася я, дык думала, звар'яцею. Ад таго часу, калі прысніўся мне той сон, не магу знайсці спакою.

Снілася мне, быццам мы з мужам кудысьці збіраліся. Праўда, па паперках мы з ім не муж і не жонка, але жывем ужо разам пару гадоў. Ён не хоча са мной жаніцца, бо, па-першае, ужо два разы быў жанаты і баіцца ізноў апарыцца, а, па-другое, у мяне двое дзяцей, якія яму, можна сказаць, абыякавыя. А я яго кахаю без памяці і іду, як дурань, у яго на павадку.

І вось сніцца, што мы маем некуды выходзіць. Я апранулася ў нейкія старыя рэчы. Была пры мне і старая жоўтая сумка.

Не ведаю, куды мы ідзем: на шпацыр ці да знаёмых у госці. Усё-такі да нейкіх знаёмых, але я іх не ведаю. Там зусім маладая кампанія. На стале сядзела вельмі прыгожая дзяўчына з доўгімі чорнымі валасамі. Яна чамусьці ўвесь час смяялася. Я заўважаю, што і мой муж пачынае ўсміхацца ёй. Заляцаецца да яе. Мне здалося, што яны ўжо раней былі знаёмыя. Рэўнасць душыць мяне. Неспадзявана мой муж узяў яе за грудзі. У яе вачах я ўбачыла адданне, вялікія пачуцці.

І я зразумела, што яны кахаюць адзін другога. Агарнуў мяне вялікі смутак, жаль.

Астронку, я вельмі непакоюся. У гэтым сне ўсё ж дамінавалі прыгожыя валасы тае дзяўчыны. Баюся, што мой ужо знайшоў сабе новую ляльку.

**Крыся**

Крыся! Думаю, што ты непатрэбна так расхвалявалася. Такі сон трэба чытаць наадварот, значыць, твой муж табе не здраджвае. Можа ты зашмат пра гэта думаеш. Баішся здрады, і сон — вынік тваіх чорных думак.

Тое, што ты была апранута ў старую вопратку, можа гаварыць за тое, што ты вядзеш даволі небяспечную гульню. А чым жа ёсць такое жыццё, якое ты накінула сабе...

Даюць надзею на добры паварот спраў тыя доўгія валасы прыгожай паненкі. Валасы густыя, доўгія бачыць у сябе або ў кагосьці іншага — багацце і сіла. Калі сніцца, што валасы вылазяць, можа прычапіцца хвароба ці будуць нястачы. Так што ты кепскага ходу спраў не бойся!

**Астрон**

# Музей у Кляшчэлях

У Кляшчэлях па ініцыятыве тамашняга Таварыства прыяцеляў Кляшчэлеўскай зямлі (ТПКЗ) арганізоўваюць гістарычны міні-музей. Будзе ён знаходзіцца ў старадаўнім драўляным будынку былой пачатковай школы па вуліцы 1 Мая 16. Сябры ТПКЗ пачалі збіраць экспанаты, у тым ліку старыя дакументы, фотаздымкі, даўнія ўборы, а таксама сельскагаспадарчыя прылады ды прадметы хатняга ўжытку.

ТПКЗ звяртаецца з просьбай да ўсіх жыхароў горада і гміны прыносіць розныя экспанаты для будучага музея, між іншым, гліняныя збаны і гаршкі, драўляныя маслабойкі, кубкі і лыжкі, калаўроткі, жорны, цапы, сярпы, дываны, пакрывалы і радзюжкі, а таксама вышываныя кашулі. У музеі будуць праводзіцца ўрокі гісторыі ды этнаграфічныя заняткі.

Таварыства дапаможа выдаць друкам манаграфію царквы ды Кляшчэлеўскага праваслаўнага прыхода ў падрыхтоўцы а. Рыгора Сасны.

Дэталёвыя інфармацыі ў гэтай справе можна атрымаць у мясцовым асяродку культуры ў Кляшчэлях — тэлефон: (0-85) 681-80-54.

**(гай)**

# Лес у маіх вачах

У Надлясніцтве Белавежа па вул. Вайцяхоўка 4 аддалі ў карыстанне Асяродак лясной адукацыі (АЛА) „Ягелонска”. У АЛА адразу адкрылі багатую дзіцячую і маладзёжную выстаўку жывапісу „Лес у маіх вачах”. Састаўляюць яе карціны пра каралеву пушчаў — Белавежскую. Можна яе аглядаць да канца кастрычніка.

**(гай)**

# Цікавыя заняткі ў ГДК

Неўзабаве дзеці і моладзь на пластычных занятках у Гайнаўскім доме культуры па вул. Беластоцкай 2 будуць выконваць праекцыйныя ліхтары... з дыні або кабачка.

Заняткі адбудуцца ў апошнюю суботу кастрычніка г.г. Пачатак а гадзіне 14.00.

**(гай)**

# Наша пошта

**Добры дзень**

Chcemy zakomunikować, że czytamy regularnie „Niwę”. Jesteśmy uczniami LO 2 z BJN w Hajnówce, naszym nauczycielem jest Iwan Karczewski i mamy nadzieję, że nie będziecie mieli dygresji do nas, że piszemy po polsku, a nie po białorusku. Spowodowane jest to złą znajomością czcionki białoruskiej. „Niwa” nam się bardzo podoba i mamy nadzieję, że Wasza strona WWW jest już gotowa — z chęcią na nią zajrzymy.

**lo2hajn@waw.ids.edu.pl**

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка



*„Па шчучаму вяленню, па маяму хаценню".*

Мал. Алега КАРПОВІЧА

## Пан

Раскажу я ўсім сялянам,
Як захацеў зажыць я панам.
У сяле хату меў вяліку
І жывіны — рой без ліку.

Пакоі ў хаце ўсе шырокі,
Не абіваў аб сцены бокі.
Пазнаў дзяўчо я маладое,
Што не любіла вельмі гною.

Пара стала мне ўжо жаніцца —
Жывіны, вось, трэба пазбыцца,
І за ўсю гэтую жывіну
Я купіў сабе машыну.

І з каханаю жанчынай
Я паехаў той машынай.
Бывай родны мой куток, —
Я паехаў у Беласток!

У Беластоку, як панок,
Стаў шукаць сабе куток
І знайшоў малую клетку,
Пасадзіў там сваю кветку.

Пакуль грошы ў нас былі
Мы прыгожанька жылі,
А як сталі высыхаць,
Пайшоў працу я шукаць.

Я сюды-туды круціўся,
У *нядзельцы* не змясціўся,
І натаміўся, будзь здароў,
Быццам даіў сто кароў.

Прыйшоў дадому, распрануўся,
Аб кант лобам дзеўбануўся,
Бо не прывык жа я да клеткі;
І неахвота ўжо й да кветкі.

Такое, вось, жыццё паночка:
Пазбыўся роднага куточка,
Кароўкі аддаў за машыну
І раскахаў сваю дзяўчыну.

**Ніна Мінько**

## Спячая Каралянка

Лялю Каралянку вымаліў Антось Кароль з Сінек, бацька ейны, з матуляй Настассяй, у сталым ужо ўзросце. Спачатку мроіўся ім мужчынскі нашчадак-наследнік, каб гаспадарыў на дагледжаным чарназёме, але добра, што Усявышні даў хоць наследніцу, ды якую ж харошанькую — не дарам яе Лялечкай назвалі! Хукалі на свой скарб, карміліпаілі ледзь не галубіным малаком, апраналі як тую ляльку Кароль з Каралíхай, у школу паслалі ў Беласток (адна з першых выйшла з вёскі Сінькі Ляля ў людзі ў пасляваенны час). Назбіралі бацькі за мяса, бульбу і збожжа ёй на кватэру, навазіліся гасцінцаў у спулдзельню, каб той *пшыдзял* хутчэй далі (не шэфству давалі, о не, меншыя спулдзельчыя царыкі там рашалі!). Стала на працу ў спажывецкай краме Ляля Каралянка, зажыла як пані: усё мае (калі нават на прылаўку кліент не бачыць; быў калісь, памятаеце, час такі?), сваё адробіць, пасля працы ляжыць, адпачывае або спіць. Не тое, што ў вёсцы Сінькі ці ў кожнай іншай: ано робіш і робіш, свету не бачыш, ніхто табе не плаціць за лішнія гадзіны, *урлёпаў* не дае, а на руках носіш не манікюр-чырвоны пазур, а мазалі! Значыць, паняй зажыла Ляля, нічога не скажаш, ёсць чым цешыцца і хваліцца бацькам. На тое ж яе Кароль з Каралíхай у Беласток паслалі.

Спіць Ляля, а ёй у вёсцы расце. Вязуць адзінай дачцэ бацька і маці гасцінцы, кормяць смачненькім — будзе ўдзячнасць ды падмога на старасць. Нашто Лялі купнае, калі *свойскае* ёсць, хай збірае на *таксоўку*, на мэблю замежную. Ой, як гэта будзе, як Ляля заедзе на каралёўскі двор, у родную вёску Сінькі з кавалерам мястовым!

Пад свята сабраўся быў Антось Кароль да дачкі з салідным індыком — абскубала, абсмаліла яго Настуля, каб Лялі там у Беластоку не пэцкацца. Загарнуў стары ў паперу цяжэзнага птаха, ледзь увапхнуў яго ў старую пацыраваную торбу і патэпаў да цягніка ў Беласток.

За парогам свае кватэры сустрэла бацьку Ляля, піханула хутчэй у туалет:

— Тата, сядзіце тут ціха, у мяне ж госці! Не важцеся нос нават высунуць! — і (нават тым індыком не пацікавілася!) патушыла святло.

Сядзеў бацька не так і доўга ў цёмнай вязніцы — у туалет зайшоў даччын госць за неадкладнай патрэбай.

— Не буду тут у каралеўскім срачы калець! — кінуў Антось Кароль дачцэ разам з індыком пад ногі.

Ой, сорам быў Лялі Каралянцы. Такога бацьку мае!

**Кукша**

Фрашкі пра нашых

## Пад нашым знакам

Хто не з намі, той супраць нас.
Мы ўжо іначай разумець не ўмеем.
А той, хто з намі ў той багне заграз —
Ён колер свой змяніць ўжо не пасмее!

Гуртом на дно, дык у цяпле — не гора.
А ў цеснаце то й крыўды — ані грам.
А хто захоча вылезці з каморы —
У лыч! Аб...ць (тут слова не для дам)!

Хто там прабуе правай? Левай?! Ну, назад!
Найлепш таптацца ў месцы нам, панове.
Сцерпім усё. Ў лад пойдзе і адклад.
А праклінайма **ціха** ў простай мове.

**Вандал Арлянскі**

## Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. знак ганьбы, 3. млекакормячае роднаснае кажану, 5. узброены напад, 7. адно з дванаццаці сузор'яў Задыяка, 9. прымацаваны да дрэўка кавалак матэрыялу з эмблемай, 10. імя канстанцінопальскага патрыярха, 11. усходы азімых культур, 12. упакоўка, 14. нецывілізаваны чалавек, 16. грыб са слізістай шапкай, 17. палачка для паказвання.

**Вертыкальна:** 1. урачыстае абяцанне, 2. п'янаму па калені, 3. фасон впраткі, 4. буйны загаловак у газеце, 6. калекцыянер, 8. месца для бяспечнай стаянкі суднаў, 9. духавы музычны інструмент у выглядзе трубкі з адтулінамі і клапанамі, 11. аддзяляе Танзанію ад Мазамбіка, 13. жонка Ісаака, 14. псаломшчык, 15. сын дачкі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 37 нумара**

**Гарызантальна:** каліва, Вільня, дацэнт, каса, туга, таварыства, віна, луза, Багата, Укаялі, расада.

**Вертыкальна:** калька, вада, вінт, Няміга, цэнтрыфуга, сатана, Тувалу, віядук, засада, Балі, тара.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Кацярыне Бялькевіч** з Гарадка і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Ці ваша дачка прадставіла вам свайго будучага мужа?

— Яна вельмі нясмелая; прыводзіць яго дадому, калі нас няма.

* * *

— Гапка, які ў вас прыгожы світар!

— Ён звязаны з сапраўднай вярблюжай воўны...

— Я так і дадумаўся, калі пабачыў гэтыя два гарбы спераду.

* * *

— Ох, якая ў цябе прыгожая спадніčка, — захапляецца сяброўка. — Хаця носіш яе ўжо пяць гадоў, усё выглядае як новая!

* * *

— Ці сапраўды ў гэтым капелюшы выглядаю на дзесяць гадоў маладзей?

— А колькі табе гадоў?

— У капелюшы ці без?

* * *

— У цябе цудоўнае новае футра — пэўна гэта муж табе купіў?

— Часткова так.

— Як гэта: часткова?

— Ён купіў, але задума была мая.

* * *

Падчас размовы дзвюх сяброўак адна з іх выявіла, што за інтымнае суджыццё вымагае ад мужа грошай, якія пасля прызначае на спаднічкі. Спадабалася гэта другой, і яна таксама вырашыла прымяніць такі метад. Калі муж прытуліўся да яе ў пасцелі, пачуў:

— Гэта каштуе дзесяць злотых; столькі мая сяброўка бярэ ад свайго старога.

Муж заглянуў у кашалёк, але знайшоў там толькі два злоты.

— Гэтага толькі на пацалунак хопіць, — заявіла жонка.

Муж задаволіўся пацалункам, адвярнуўся спінай і захроп. Жонка пакруцілася, паваярцелася ды не стрывала, трасе мужа за плячо:

— Ты не спі, а ідзі на кухню і пазыч з дамашняй касы колькі трэба...